

*В.А. Купрыенка, В.В. Шур*

# Матэрыялы да слоўніка гаворак Мазырскага Палесся



Міністэрства адукацыі і навукі Рэспублікі Беларусь
Мазырскі дзяржаўны педагагічны інстытут

***В.А. Купрыенка, В.В. Шур***

# ***Матэрыялы да слоўніка гаворак Мазырскага Палесся***

Вучэбны дапаможнік па беларускай дыялекталогіі для студэнтаў філалагічнага факультэта беларускага аддзялення

Мазыр, 1996

## *Прадмова*

У прапанаваным слоўніку спарадкаваны дыялектныя словы, прыказкі, прымаўкі з гаворак Палесся (Акцябрскі, Брагінскі, Ельскі, Жыткавіцкі, Калінкавіцкі, Лельчыцкі, Мазырскі, Нараўлянскі, Петрыкаўскі, Рэчыцкі, Хойніцкі раёны). Значная частка змешчанай ў слоўніку лексікі паступова выходзіць з актыўнага ўжывання і з'яўляецца ў асноўным тыповай для старэйшага пакалення людзей. Матэрыяламі гэтага слоўніка сталі запісы мясцовых гаворак Гомельскага Палесся, якія зрабілі студэнты, выкладчыкі філалагічнага факультэта, а таксама аўтары данай працы ў час летніх дыялектычных экспедыцый.

У падборцы лексем слоўніка пераважаюць словы, якія адлюстроўваюць традыцыйныя заняткі жыхароў Гомельскага Палесся. Гэта найчасцей словы сельскагаспадарчай, жывёлагадоўчай, ткацкай, пчалярскай, рыбалоўнай, земляробчай лексікі, назвы самаробных бытавых і гаспадарчых прадметаў, а таксама назвы адзення, упрыгожанняў і г.д.

Усе словы падаюцца ў алфавітным парадку. Пасля загалоўнага слова даюцца граматычныя і стылістычныя паметы, а затым ідзе тлумачэнне. Як правіла, да дыялектнага слова падабраны яго адпаведнік. Да некаторых дыялектызмаў даюцца разгорнутыя апісальныя тлумачэнні.

У канцы працы ў алфавітным парадку змешчаны прыказкі, прымаўкі з гаворак Гомельшчыны, якія выразна перадаюць фанетычныя, лексічныя і марфалагічныя асаблівасці мовы жыхароў Гомельскага Палесся.

Матэрыялы слоўніка можна выкарыстоўваць на занятках па беларускай дыялекталогіі і сучаснай беларускай мовы, а таксама на занятках беларускай мовы сярэдняй школы. Гэтыя матэрыялы будуць патрэбнымі пры падрыхтоўцы студэнтамі курсавых і дыпломных прац.

## *Населеныя пункты, ў якіх запісвалася лексіка*

***Агол.*** — Аголічы Петрыкаўскага раёна
***Азяр.*** — Азяраны Жыткавіцкага раёна
***Алякс.*** — Аляксандраўка Калінкавіцкага раёна
***Амель.***— Амелькаўшчына Хойніцкага раёна
***Арав.*** — Аравічы Хойніцкага раёна
***Аўрам.*** — Аўрамаўская Хойніцкага раёна
***Асав.*** — Асавец Мазырскага раёна
***Астраг.*** — Астрагляды Брагінскага раёна
***Астраж.*** — Астражанка Лельчыцкага раёна
***Бабр.*** — Бабраняты Мазырскага раёна
***Багуц.*** — Багуцічы Ельскага раёна
***Балаж.*** — Балажэвічы Мазырскага раёна
***Бакл.*** — Баклань Петрыкаўскага раёна
***Барав.*** — Баравое Лельчыцкага раёна
***Барб.*** — Барбароў Мазырскага раёна
***Беразн.*** — Беразнікі Жыткавіцкага раёна
***Бок.*** — Бокаў Мазырскага раёна
***Брын.*** — Брынёў Жыткавіцкага раёна
***Буд.Саф.*** — Буда -Сафіеўка Лельчыцкага раёна
***Буйн.*** — Буйнавічы Лельчыцкага раёна
***Букч.*** — Букча Лельчыцкага раёна
***Бурк.*** — Буркі Брагінскага раёна
***Васіл.*** — Васілевічы Рэчыцкага раёна
***Васьк.*** — Васькаўка Мазырскага раёна
***Вал.*** — Валаўск Ельскага раёна
***Верб.*** — Вербавічы Нараўлянскага раёна
***Верас.*** — Верасніца Жыткавіцкага раёна
***Веляц.*** — Веляцін Хойніцкга раёна
***Вугл.*** — Вуглы Нараўлянскага раёна
***Вял.Бор*** — Вялікі Бор Хойніцкага раёна
***Вял. Аўц.*** — Вялікія Аўцюкі Калінкавіцкага раёна
***Галуб.*** — Галубіца Петрыкаўскага раёна
***Гарб.*** — Гарбавічы Калінкавіцкага раёна
***Гароч.*** — Гарочычы Калінкавіцкага раёна
***Глініц.*** — Глініца Мазырскага раёна
***Глушк.*** — Глушкавічы Лельчыцкага раёна
***Граб.*** — Грабаў Петрыкаўскага раёна
***Параш.*** — Дарашэвічы Петрыкаўскага раёна

***Дубр.*** — Дуброва Лельчыцкага раёна
***Дзёрн.*** — Дзёрнавічы Нараўлянскага раёна
***Дзямід.*** — Дзямідаў Нараўлянскага раёна
***Жах.*** — Жахавічы Мазырскага раёна
***Загал.*** — Загалле Хойніцкага раёна
***Загор.*** — Загорыны Мазырскага раёна
***Замос.*** — Замосце Калінкавіцкага раёна
***Замош.*** — Замошша Лельчыцкага раёна
***Запяс.*** — Запясочча Жыткавіцкага раёна
***Зар.*** — Зарэчча Брагінскага раёна
***Зім.Буд.*** — Зімовая Буда Лельчыцкага раёна
***Звян.*** — Звяняцкае Хойніцкага раёна
***Івашк.*** — Івашкавічы Петрыкаўскага раёна
***Казлов.*** — Казловічы Калінкавіцкага раёна
***Кам.*** — Каманоў Брагінскага раёна
***Камар.*** — Камаровічы Петрыкаўскага раёна
***Канат.*** — Канатоп Нараўлянскага раёна
***Капл.*** — Каплічы Калінкавіцкага раёна
***Капц.*** — Капцэвічы Петрыкаўскага раёна
***Карав.*** — Каравацічы Рэчыцкага раёна
***Карм.*** — Карма Ельскага раёна
***Карч.*** — Карчовае Хойніцкага раёна
***Катл.*** — Катловіца Брагінскага раёна
***Конкав.*** — Конкавічы Петрыкаўскага раёна
***Крыўч.*** — Крыўча Брагінскага раёна
***Круш.*** — Крушнікі Мазырскага раёна
***Курыц.*** — Курыцічы Петрыкаўскага раёна
***Ламав.*** — Ламавічы Акцябрскага раёна
***Лісн.*** — Ліснае Лельчыцкага раёна
***Лукі*** — Лукі Калінкавіцкага раёна
***Ляск.*** — Ляскавічы Петрыкаўскага раёна
***Макр.*** — Макрэц Брагінскага раёна
***Майс.*** — Майсеевічы Мазырскага раёна
***Малейк.*** — Малейкі Брагінскага раёна
***Малеш.*** — Малешаў Жыткавіцкага раёна
***Мірон.*** — Міроненкі Мазырскага раёна
***М.Аўц.*** — Малыя Аўцюкі Калінкавіцкага раёна
***Махн.*** — Махнавічы Мазырскага раёна
***Мікул.*** — Мікулічы Брагінскага раёна
***Мялешк.*** — Мялешкавічы Мазырскага раёна
***Навас.*** — Навасёлкі Хойніцкага раёна

***Небыт.*** — Небытаў Хойніцкага раёна
***Пагон.*** — Пагоннае Жыткавіцкага раёна
***Палаўк.*** — Плаўкі Ельскага раёна
***Партыз.*** — Партызанская Хойніцкага раёна
***Пасел.*** — Паселічы Хойніцкага раёна
***Паташ.*** — Паташня Хойніцкага раёна
***Перар.*** — Перароў Петрыкаўскага раёна
***Пруд.*** — Прудок Мазырскага раёна
***Пудак.*** — Пудакоў Хойніцкага раёна
***Пухав.*** — Пухавічы Жыткавіцкага раёна
***Савіч.*** — Савічы Калінкавіцкага раёна
***Санюк.*** — Санюкі Ельскага раёна
***Свірын.*** — Свірынаўка Мазырскага раёна
***Скалодз.*** — Скалодзін Мазырскага раёна
***Скар.*** — Скароднае Ельскага раёна
***Скрыг.*** — Скрыгалаў Мазырскага раёна
***Слабад.*** — Слабада Мазырскага раёна
***Смят.*** — Смятанічы Петрыкаўскага раёна
***Спяр.*** — Спярыжжа Брагінскага раёна
***Стад.*** — Стадолічы Лельчыцкага раёна
***Страл.*** — Стралічаў Хойніцкага раёна
***Сцеж.*** — Сцежарнае Брагінскага раёна
***Сяр.Печ.*** — Сярэднія Печы Лельчыцкага раёна
***Тонеж.*** — Тонеж Лельчыцкага раёна
***Тульг.*** — Тульгавічы Хойніцкага раёна
***Убарц.Рудн.*** — Убарцкая Рудня Лельчыцкага раёна
***Хвойн.*** — Хвойнае Хвойніцкага раёна
***Хобн.*** — Хобнае Калінкавіцкага раёна
***Цераб.*** — Церабаў Петрыкаўскага раёна
***Чырвонабяр.*** — Чырвонабярэжжа Лельчыцкага раёна
***Юркав.*** — Юркавічы Брагінскага раёна
***Ясян.*** — Ясяні Брагінскага раёна

## *Умоўныя абазначэнні*
Граматыка-стылістычныя

*азн.займ.* — азначальны займеннік
*азн. часціца* — азначальная часціца
*адносн. займ.* — адносны займеннік
*акал. прысл.* — акалічнаснае прыслоўе
*ас. займ.* — асабовы займеннік
*выкл.* — выклічнік
*дзеясл. умоўн. ладу* — дзеяслоў умоўнага ладу
*дзеясл. заг. ладу* — дзеяслоў загаднага ладу
*ж.*— жаночы род
*ж.толькі ў адзін.* — жаночы, толькі ў адзіночным ліку
*зак. трыв.* — закончанае трыванне
*зборн. назв.* — зборная назва
*злучн.* — злучнік
*лайн.* — лайнае слова
*м.* — мужчынскі род
*м. толькі ў адзін.* — мужчынскі, толькі ў адзіночным ліку
*м. і ж.*— мужчынскі і жаночы род
*незак. трыв.* — незакончанае трыванне
*н.* — ніякі род
*н.толькі ў адзін.* — ніякі, толькі ў адзіночным ліку
*падп. злучн.* — падпарадкавальны злучнік
*прысл.* — прыслоўе
*пыт. часціца* — пытальная часціца
*склад. прысл.* — складанае прыслоўе
*толькі ў адзін.* — толькі ў адзіночным ліку
*ужыв. толькі ў множ.* — ужываецца толькі ў множным ліку
*указ. займ.* — указальны займеннік
*устар.* — устарэлае
*фраз.выраз* — фразелагічны выраз
*часц.* — часціца
*якасн. прым.* — якасны прыметнік
*як. прысл.* — якаснае прыслоўе

# А

**АБАГНА́ЦЬ** (абагна́ць), -ю-, -еш-, *незак.трыв.* Абсыпаць зямлёй кусты бульбы. Карто́пля ву́расла, трэ абагна́ць яе. Іва́н, пасля абе́ду трэба карто́плю абагна́ць. ***Зар.***

**АБАПНУ́ЦЬ** (абапну́ць), -у-, -еш-, *зак.трыв.* Завязаць, накінуць на галаву і плечы хустачку. Абапну́ла дзіця́ ў ху́стку і падала́ся ў клу́б. ***Кам.***

**АГА́ШНІК** (ага́шнік), *м.* Драўляны гузік у портках. Штаны́ чы́ста порва́ліса, одзі́н ага́шнік аста́ўса. ***Смят.***

**АБЕ́ДНІК** (абе́днік), *м.* Гаршчочак, у якім вараць страву для абеду. Звары́ла абе́днік кру́пніку. ***Астраж.*** Поста́віла абе́днік у пе́ч. ***Стад.***

**АБЕРА́ЧУВАЦЬ** (абера́чуваць), -ю-, -еш-, *незак.трыв.* Перакульваць, пераварочваць што-небудзь. Е́тое поро́ся чугу́н абера́чувае і абера́чувае. ***Верб.***

**АБІ́РАК** (абі́рак), *м.* Верацяно з грубой пражай. З патро́пак напрала два абі́ркі. Адзін абі́рак напра́ла і павечарэ́ла. ***Зар.***

**АБЛЕ́ТАК** (абле́так), *м.ужыв. толькі ў адзін.* Высахлыя за лета дровы. Ох і гарэ́лі б у пе́чы дро́ву, кеб бу́ў абле́так. ***Зар.***

**АБДЗІ́РКІ** (абдзі́ркі), *ужыв. толькі ў множ.* Адыходы з ільнавалакна пасля часання яго грэбнем. Куды́ ты е́тыя абдзі́ркі дзе́неш, тут сто́лькі кайстры́цы. ***Карч.***

**АБПІ́НЕНКА** (абпі́ненка), *ж.* Вялікая цёплая хустка. Га́лё, возьмі да накі́нь на пле́чы абпі́ненку, бо ве́льмо хо́лодно. ***Дубр.*** Заку́тай у абпі́ненку дзіця́, бо зме́рзне на сукра́к. ***Пруд.***

**АБРЫ́ДЛА** (абры́дла), *прысл.* Надаела. Го́дзе ужэ мало́ць што-зра́, а то абры́дла слу́хаць. ***Карч.***

**АБШЫВА́НКА** (абшыва́нка), *ж.* Лодка пры вялікай рацэ ці возеру. Возьмі́ абшыва́нку да е́дзь по шча́ўе за Прыпець. ***Арав.***

**АБУЛЬ - КУДЫ́** (абуль-куды́), *склад.прысл.* Ісці абы-куды. Абуль-куды́ пошо́ў, коб не седзе́ць у ха́ці. ***Астраж.***

**АБМУЛАК** (абмулак), *м.* Невялікі кавалак мыла. Вазьмі е́ты абмулак і памуй трохі ба́бін хвартух, бо ве́льмі гразны. ***Спяр.***

**АБУРЫНЫ** (абурыны), *ужыв. толькі ў множн.* Сечаная салома ці сена з мякінай. Сена мала дак трэба абу́рыны мяша́ць. Ахрэм, намяша́й абурын і занесі́ каро́ві. ***Кам.***

**АГНЯВІЦА** (агнявіца), *ж.ужыв. толькі ў адзін.* Гарачка. У нашого дзеда така агнявіца, коб не помер. ***Астраж.*** 2. Маланка. Ох, якая агнявіца зіхае, кеб рабінавай ночы не було. ***Кам.***

**АГЫСЬ** (агысь), *выкл.* Панукаванне авечак. Агысь дадому, куды вас чорт нясе. ***Спяр.***

**АДАРОБІНА** (адаробіна), *ж. і м.* Лаянка. Няўклюда. От адаробіна вырасла, нічога путнага не зробіш. ***Верб.***

**АДАПНУЦЬ** (адапнуць), *-у-, -еш-, зак. трыв.* Адхіліць, адгарнуць.Адапні хвіранку і паглядзі ў вакно, мо бацька едзе. ***Спяр.***

**АДВАЛІЦЬ** (адваліць), *-ю-, -іш-, зак.трыв.* Адрэзаць вялікі кавалак. Адваліла такую скібку, што ад кулідкі нічога не асталося. Адвалі кусок сала, хай есць. ***Спяр.***

**АДВУКАЦЬ** (адвукаць), *-ю-, -еш-, незак. трыв.* Забываць. Пажыў у горадзе, дак ат сяла адвукаць стаў. Хутка ты адвук ад нас, трэ часцей прыяжджаць. ***Кам.***

**АДГАКАЦЬ** (адгакаць), *-ю-, -еш-, зак. трыв.* Адбудаваць. Добрую хату Мірон адгакаў, нічого не скажэш. ***Чырвонабяр.***

**АДГАСІЦЬ** (адгасіць), *-у-, -іш-, зак.трыв.* Многа накасіць. Стolькі поплаву адгасіў, мо вазоў тры сена будзе. ***Зар.***

**АДДЫХАЦЬ** (аддыхаць), *-у-, -аш-, зак. трыв.* Перавесці, супакоіць дыханне. Дай хоць трохі аддыхаць, а то й слова прамовіць ні магу, так задыхаўся. ***Партыз.***

**АДНАРУЧКА** (аднаручка), *ж.* Верацяно з ільнянай пражай. За ўвесь вечар толькі аднаручку напрала. ***Карч.***

**АДХАКАЦЦА** (адкахацца), *-ю-, -еш-, зак.трыв.* Перавесці дыханне, прысці да спакою. Так бегла з лесу, што ні магу адхакацца. Дай хоць адхакацца ў хаці. ***Карч.***

**АДДУБАСІЦЬ** (аддубасіць), *-у-, -іш-, зак трыв.* Моцна пабіць, адлупцаваць. Не чапай ружжа, бо бацька добра аддубасіць. ***Спяр.***

**АКАЦІЦЬ** (акаціць), *-у-, -іш-, зак.трыв.* Роды авечак. Ноччу акацілася наша авечка. ***Кам.***

**АКОТ** (акот), *м. толькі ў адзін.* Працэс роду авечак. Іван, чаму авечка крычыць, мо акот настаў. ***Сцеж.***

**АКРАЙКА** (акрайка), *ж.* Старадаўні пояс, вытканы з кваціcтых нітак. Ну й адзеўся Цімох, сарочку патперазаў акрайкаю, тай пашоў па вуліцы. ***Карч.***

**АКУРАТ** (акурат), *прысл.* У самы раз. А спонніца ў цебе акурат, больш і не трэбо. ***Курыц.***

**АНАДОЯЧЫ** (анадоячы), *прысл.* Нядаўна. Анадоячы Поля мне казала, як да Вольгі заходзіў Хартон, сама бачыла. ***Карав.***

**АНІГАДКІ** (анігадкі), *выкл.* Анігадкі, работы не зробіла, а ў клуб ужэ сабраласа. ***Дзёрн.***

**АНІРАДЫ** (анірады), *прысл.* Аніяк. Ну й цепер молодзёж, постолоў анірады не хочуць надзеваць на покус. ***Скар.***

**АНДОВЕ** (андове), *прысл.* На днях. Андове ходзіла ў лес — боровікі росцімуць. ***Верас.***

**АПАД** (апад), *м. толькі ў адзін.* Зборная назва. 1. Яблыкі-падалкі. За ноч ападу насыпаласа мо з мех. ***Астраж.*** 2. Апаўшае лісце. Лес голы, адзін апад пад нагамі шуміць. ***Загал.***

**АПАЛ** (апал), *м. толькі ў адзін.* Дрэва, якое непрыгоднае для будавання. Ета хвоя ідзе толькі на апал. ***Мялеш.*** Колода веліка, але годзіцца толькі на апал. ***Бакл.***

**АПАЛАЦЬ** (апалаць), *-ю-, -еш-*, *незак. трыв.* Вазьмі начоўкі да апалай проса. ***Сцеж.***

**АПАЛАНКІ** (апаланкі), *ужыв. толькі ў множн.* Маленькія начоўкі для веяння зерня ці круп. Стаўкла проса ў ступі, а зараз вазьму апаланкі да апалаю іх. ***Спяр.***

**АПЕРАЗАЦЬ** (аперазаць), *-у-, -аш-*, *зак. трыв.* Моцна стукнуць. Ек аперазаў корову апоўдзінай, то хутко отбегла от буракоў. ***Ляск.*** Аперазаў сабаку палкай, ураз схаваласся ў будку. ***Хвойн.***

**АПЕЧЧА** (апечча), *н., толькі ў множ.* Аснова печы, якая зроблена з дрэва. Апечча ужэ зробілі, печ лепіцьмем. ***Сяр.Печ.***

**АПІНАЛКА** (апіналка), *ж.* Шарсцяная квяцістая хустка. Накінула на плечы апіналку да й пойду да Горпіны. ***Бакл.***

**АПІНАХА** (апінаха), *ж.* Вялікая суконная хустка, плед. Накінь на плечы, бабо, апінаху, бо холодно. ***Перар.***

**АПЛЕТАЦЬ** (аплетаць), *-ю-, -еш-*, *незак. трыв.* Хутка есці. Ек стаў аплетаць варену рыбу, то чуць усю міску не з'еў. ***Лісн.***

**АПЛЮК** (аплюк), *м.* Кручок у адзенні. Трэба ушыць аплюк у штаны дзеду, бо гузік не дзержыцца. ***Спяр.***

**АПОЖНІК** (апожнік), *м. ужыв. толькі ў адзін.* Галлё на верхавіне стога. Мала галля далі — хоць бу апожнік не ўпаў. Апожнік ж добры зрабілі — стог не зваліцца. ***Навас.***

**АПО́ЎЗІНА** (апоўзіна), *ж.* Вялікая палка, якой пакрываюць верхавіну стога. Пода́й апо́ўзіну — вершы́цьмем сто́г. ***Стад.***

**АПО́ЎЗНІК** (апо́ўзнік), *м.ужыв. толькі ў адзін.* Зборная назва. Палкі, які́мі пакрываюць верхавіну стога. Унь хма́ра ідзе́, хутчэ́й рабі апо́ўзнік, вярши́ць бу́дзем. ***Сцеж.***

**АПУ́КА** (апу́ка), *ж.ужыв. толькі ў адзін.* 1. Дзіцячая гульня. Хадзем у апу́ку гуля́ць. ***Кам.*** 2. Самадзельны дзіцячы мяч. Кіда́й апу́ку мне́. ***Зар.***

**АПУ́РЫЦЬ** (апу́рыць), -у-, -ыш-, *зак.трыв.* Абліць вадою. Што ў цебе́ за жарту́н твой Іва́н, мене́ ўсю апу́рыў водо́ю. ***Астраж.***

**АРЭ́ХВА** (арэ́хва), *ж.* Шына на драўляным коле. Зробі́ арэ́хву, тоды поедзем по се́но. ***Замош.***

**АПУ́ДЭЙЛО** (апу́дэйло), *ніяк. толькі ў адзін.* Пудзіла на гародзе. Поста́віла апу́дэйло, ду́маю, вероб'і́ не ся́дуць на е́чмень. ***Ляск.***

**АРГІ́НЯ** (аргі́ня), *ж.* Вяргіня. Ек у Аксі́нні красі́во цвіце́ ў гаро́тчыку аргіня. ***Санюк.***

**АСТРА́МУС** (астра́мус), *м. ужыв. толькі ў адзін.* Рачны ёрш. Ко́ля, ек нало́віш астра́мусоў, то несі додо́му на ю́шку. ***Скрыг.***

**АСТРА́МАК** (астра́мак), *м. ужыв. толькі ў адзін.* Невялікі воз сена. Накасі́ў се́на на по́плаві, мо адзін астра́мак бу́дзе. ***Кам.***

**АЦЦЯГА́ЧКА** (аццяга́чка), *ж.* Збан для адстою малака. Злі молоко́ ў аццяга́чку. ***Курыц.***

## Б

**БА́БКА** (ба́бка), *ж.* 1. Аер. Ву́цеглі одну ба́бку з боло́та. Нарві́ ба́бок у водзе́. ***Ляск.*** 2. Запечаная бульбяная каша. Моя ба́бка мо с поўдня́ ў пе́чы сма́жыласа, така сма́чна ста́ла. ***Замош.***

**БА́БІЧ** (ба́біч), *м.* Мужчына-бабнік. Наш сусе́д Петро́ такі ба́біч, сям'і́ не гледзіць, а бе́гае за чужы́мі жо́нкамі. ***Івашк.***

**БАБО́НІК** (бабо́нік), *м.* Перамёрзлая за зіму сухая на полі бульба. Бабо́нікаў мно́га бува́е на калга́сным по́лі. У вайну́ бабо́нікі е́лі, а цепе́р бабо́ніка ніхто́ не берэ́. ***Кам.***

**БАБЧАНІК** (бабчанік), *м.* Бліны з бульбы. Бабчанік з салом такі смачны. Елі бабчанікі ўранні. ***Івашк.***

**БАГАРОДКА** (багародка), *жс.* Палісаднік каля хаты ад вуліцы. Красівуя розы расцвілі ў етай багароццы. ***Карав.***

**БАГНОТО** (багното), *н. ужыв. толькі ў адзін.* Багульнік. Багното покрыло ўвесь еты алёс. От багното моль дохне. ***Ляск.***

**БАГОН** (багон), *м. ужыв. толькі ў адзін.* Багульнік. У нас багон расце толькі ў алёсі. Ад багону баліць галава, калі надыхаешся ім. ***Хвойн.***

**БАЛВАНЕЕ** (балванее), *безасаб. незак. трыв.* Развідняе, пачынае світаць. Ужэ балванее, хутка дзень. ***Кам.*** Почало болванець, трэбо ўставаць і пороцца ў печы. ***Ляск.***

**БАРАН** (баран), *м. ужыв. толькі ў адзін.* Сталярная прылада, рубанак з дзвюма ручкамі. Оторвалаca ручка ў барана, не могу шалёўку почысціць. Не знаю, куды подзеўса мой баран. ***Смят.***

**БАРЖДЖЭЙ** (барждщэй), *прысл.* Хутчэй. Барждщэй ідзі сюды, кажу табе. Барждщэй вуймі чыгун с печы, а то картопля вугарыць. ***Зар.***

**БАРКАН** (баркан), *м. ужыв. толькі ў адзін.* Паркан, плот з шалёўкі. Баркан наш стары, ужэ валіцца. Добра, калі баркан нову, ніякая худобіна ў гарод не зайдзе. ***Кам.***

**БАРОК** (барок), *м.* Вазок. У барок понаседалі малые. Цепер барок ніхто не робіць, машыной ездзяць. ***Астраж.***

**БАТУХ** (батух), *м. толькі ў адзін.* Бізун, вітая пастуховая пуга. Пастух з батухом пашоў, погнаў тавар на поле. Не ляскай, Колька, батухом. ***Астраж.***

**БАЎТУША** (баўтуша), *жс.* Рыбалоўная прылада, від конусападобнага плецянага мяшка. Паблёхай баўтушай ля берагу, мо екого карася поймаем. Рыбы нема — і баўтуша без дзела валяецца. ***Гароч.***

**БАЎТКІ** (баўткі), *ужыв. толькі ў множн.* Жоўтыя вадзяныя лілііі. Заросла сажалка однымі баўткамі. ***Канат.***

**БАХІЛЫ** (бахілы), *ужыв. пераважна ў множн.* Клееныя самаробныя галёшы. Цепер бахілы мала носяць, больш галошы. ***Зар.*** Послі вайны бахілы ўсе насілі, а цепер не. ***Спяр.***

**БЕЛЬ** (бель), *жс. ужыв. толькі ў адзін.* Лясное балота, парослае кустамі лазы, крушыны, альхі. Тую бель хутка асушаць, мо зайсці можна будзе. Тут така бель, што ня вулезці. ***Аўрам.***

**БЛЕЙЧАК** (блейчак), *м. ужыв. толькі ў адзін.* Цяслярны інструмент. Подай блейчак сюды, трэбо почысціць доску. ***Тонеж.***

**БЛЯХА** (бляха), *ж.* Самаробны процівень для выпечкі пшанічных вырабаў. Лажы каржы на бляху і стаў у печ. Дзве бляхі булак напекла. ***Пасел.***

**БІДОН** (бідон), *м.* Пасудзіна для малака. У мяне каро́ва добрая, летам цэлы бідон малака дае за дзень. Бувала, цэлы бідон малака надаю ранкам і вечарам. ***Кам.***

**БІТОН** (бітон), *м.* Батон з пшанічнай мукі. Ну й смачны бітон купіла, ек сахар. Бітоны ў лаўку прывезлі. ***Ляск.***

**БОДНЯ** (бодня), *ж.ужыв. толькі ў адзін.* Кубел для сала. Поўна бодня сала, на ўсё лета хваціць. ***Макр.***

**БОЛОННЕ** (болонне), *н., ужыв. толькі ў адзін.* 1. Сенажаць. Така погода стоіць, і старые, і малые пошлі на болонне. 2. Выган для скаціны. Вугонь свінні на болонне, хай не вішчаць. ***Верас.***

**БОННЯ** (бонням), *ж.ужыв. толькі ў адзін.* 1. Драўляная дзежка сала. Поўна боння сала. ***Малеш.*** 2. Дзежка для мукі. У бонню сыпалі муку. ***Малеш.***

**БРАНКА** (бранка), *ж.ужыв. толькі ў адзін.* Шарсцяная кофта. Надзень цёплу бранку, бо холодно. ***Верас.***

**БРУС** (брус), *м.* Брэлька. Ужэ тры брусы положылі — хутко століь слацьмуць. ***Ляск.***

**БРЫКУХА** (брыкуха), *ж.* Бруква. У нас така добра брыкуха ўродзіла, на ўсю зіму хваціць. ***Капц.***

**БРЫЛЬ** (брыль), *м.* Выступ у печы. Возьмі на брылю спічкі. ***Прыт.***

**БУБКА** (бубка), *ж.* Зярняты з пладоў гародніны і садавіны. Такіе смачные бубкі з гарбузовых семечак — есі і есці хочацца. ***Карм.***

**БУДАН** (будан), *м.* Шалаш. Зробіў бацько будан ле возера, коб можно ў час дожджу ховацца. ***Вугл.***

**БУЙ** (буй), *м. толькі ў адзін.* Высокае адкрытае месца для вятроў. Не стой на такім буі, ідзі ў зацішак. ***Карч.***

**БУК** (бук), *м.* Бык. Вугонь бука з городу. ***Дубр.*** Бука доброго я здала на м'ясо. ***Асавец.***

**БУКЛАГА** (буклага), *ж.* Біклага. Ідзеш на сена, то бяры буклагу вады. ***Малейк.***

**БУЛЬБАШКА** (бульбашка), *ж.* Бурбалка. Дзеці пускалі бульбашкі з мула. ***Астраж.***

**БУЛЕ Б** (буле б), *дзеясл. умоўн. ладу.* Было б. Буле б лепей, коб ён пошоў одсюль. ***Курыц.***

**БУЛДЫКА** (булдыка), *м. толькі ў адзін.* Нецікавы, нехляманы чалавек. Часамі гэтае слова ўжываецца як лаянка. А куды ты, булдыка, повернуў. ***Ляск.***

**БУНАЧЭ** (буначэ), *злучн.* Быццам. Буначэ ты не знаеш, одкуль ето ўзялоса. ***Дзёрн.***

**БУНДА** (бунда), *ж.* Дзіцячая квяцістая сукенка. Бунда вельмо хороша ў твое Галі. ***Смят.*** Пашыла сіццаву бунду. ***Зар.***

**БУНТ** (бунт), *м.* Звязка сушаных грыбоў. Одзін бунт грібоў у лаўку здала, а другі покінула собе. ***Астраж.***

**БУРКІ** (буркі), *толькі ў множн.* Сшытыя з шарсцянай тканіны валёнкі. Сабе пашыла буркі і добра — ногі не мерзнуць. ***Зар.***

**БУЯНЫ** (буяны), *ужыв. у множн.* Буякі. Пойдзем заўтра по буяны. ***Карм.***

**БУТАЛЬ** (буталь), *м.* Рознага памеру шкляная пасудзіна, літраў ад пяці да дзесяці і болей. Нарабіла з вішань поўны буталь наліўкі. ***Зар.***

**БУЦЕЛ** (буцел), *м. ужыв. толькі ў адзін.* Шкляная пасудзіна звыш пяці літраў. Наліла буцел варэння на зіму. ***Зар.***

**БУЦІК** (буцік), *м.* Ніжняя частка сцябла аеру каля кораня. Тато, отреж мне буціка с плюшніку. ***Ляск.***

**БУХОЙ** (бухой), *прым.* Вельмі п'ны. Сусед буў такі бухой, што ледзь ногі цегнуў. ***Бакл.***

## В

**ВАЕТА** (ваета), *указ. займ.* Во гэта. Ваета пойдзе ў клуб і да дня гуляе. ***Зар.***

**ВАЛЮША** (валюша), ж.ужыв. толькі ў адзін. Даматканае сукно. Продай, Тацяно, мне хунт воўны, требо зробіць валюшу на буркі. ***Ляск.***

**ВАНГОРЫЯ** (вангорыя), ж. Дамашняя кветка, вяргіня. Паўліно, екі красівуе ў цебе вангорыі. ***Дзёрн.***

**ВАПТО** (вапто), *злуч.* Быццам. Вапто нехто зайшоў у хату. ***Дубр.***

**ВАРЭЙКА** (варэйка), *ж.* Гаршчок. Зварыла квасоўку ў варэйцы. ***Зар.***

**ВАРОНКІ** (варонкі), *ужыв. толькі ў множн.* Вараная бульба. Насып, мамо, варонок, есці хочу. ***Капц.***

**ВАРТО** (варто), *прысл.* Добра. От варто зробіў, што не ўлез у бойку. ***Смят.***

**ВАСКАВІК** (васкавік), *м. толькі ў адзін.* Конусападобная торбачка, у якой адцэджваюць сыр. От васкавік, атцадзі сыр. ***Навас.***

**ВАТРУБЯНКА** (ватрубянка), ж. Дамашняя каўбаса, зробленая з пячонкі і сала. Ек на дзіво получылась ватрубянка, така смачна. ***Канат.***

**ВАЎКА** (ваўка), *ж.* Невялікія раны на целе, балячкі (у мове дзяцей ). Не чапай Стасіка, у его на ножцы ваўка. ***Васьк.***

**ВАЎЧКІ** (ваўчкі), *ужыв. толькі ў множн.* Расліна, накшталт асцюкоў. Расце на лугах, балотах, каля рэчкі, спелыя плады чапляюцца за адзенне. Була на болоці да стольки ваўчкоў начаплялась, хоць голосі. ***Капат.***

**ВЕЗОНКІ** (везонкі), *толькі ў множн. ліку.* Рукавіцы. Галё, звежы мне везонкі, ты так хорошо вяжэш. ***Смят.***

**ВЕЛЬМО** (вельмо), *прысл.* Вельмі. Ежце крупнік — вельмо смачны. ***Стад.***

**ВЕНОК** (венок), *м.* 1.Звязка цыбулі. Поможы мне, донько, плесці цыбулю ў венок. ***Астраж.*** 2. Рад бярвенняў у зрубе. За дзень паклалі толькі два венкі. ***Тульг.***

**ВЕРЦЕБ** (верцеб), *м. ужыв. толькі ў адзін.* Невялічкае азярцо на лузе. Вода ў верцебі така чыста. ***Дзёрн.***

**ВЕХАЦЬ** (вехаць), *ж.ужыв. толькі ў адзін.* Жмут сухой травы для мыцця посуду. Памуй гладышкі вехаццю. ***Катл.***

**ВЕХОТКА** (вехотка), *ж.* Мачалка з сухой жорсткай травы. Дзе ты вехотку палажыла — ніяк не найду. ***Загал.***

**ВІД** (від), *м., ужыв. толькі ў адзін.* Твар. Унь чорнільну кляксу на від посадзіла. ***Малеш.***

**ВІЛАЧНІК** (вілачнік), *м.* Адна з пячных прылад: ёмка, вілка ці качарга. Венік унь за вілачнікам. ***Зар.***

**ВІЛОШНІКІ** (вілошнікі), *зборн. назв. ужыв. толькі ў множн.* Вілкі, ёмка, качарга разам узятыя. Помуй вілошнікі — заўтра недзеля. ***Скрыг.***

**ВІНДАВАЦЬ** (віндаваць), *незак. трыв.* Цікаваць, выглядаць. Кого ву тут віндуеце? ***Малеш.***

**ВІРОК** (вірок), *м.* Прылада для навівання пражы. Ганна, прынесі вірок, трэба ткаць кросны. ***Спяр.***

**ВІТУХА** (вітуха), *ж.ужыв. толькі ў адзін.* Фасоль, якая ўецца. Квасоля ў мене — адна вітуха. ***Мікул.***

**ВІТУШКА** (вітушка), *ж.ужыв.толькі ў адзін.* Фасоль, якая уецца. Посадзіла одну вітушку — седухі нема. ***Скрыг.***

**ВІШ** (віш), *ж.ужыв. толькі ў адзін.* Сухая леташняя трава, што зімуе на балоце. Трэба накасіць вішы на потсціл. ***Кам.***

**ВІШАНКА** (вішанка), *ж.ужыв. толькі ў адзін.* 1.Матрас, які напіхаюць сенам. Тато, хадзем напхаем вішанку сеном. ***В.Аўц.*** 2.Няякаснае сена, труха. Скінь з вушак сена вішанкі і патсцялі каровi. ***Кам.***

**ВОБ'ЕДЗЬ** (воб'едзь), ж. *ужыв. толькі ў адзін.* Аб'едкі ад сена ці саломы. Ідзі воб'едзь вукінь з ясель. ***Бок.***

**ВОБМЕШКА** (вобмешка), *ж.ужыв. толькі ў адзін.* Тоўчаная бульба з мукой для корму свіней. Наклала свінням вобмешкі цэла корыто — хай едзяць. ***Стад.***

**ВОДМУЦЬ** (водмуць), *ж.ужыв. толькі ў адзін.* Круча ў рацэ. Коло берагу водмуць, там так круціць. ***Бакл.***

**ВОЛОВОД** (воловод), *м. ужыв. толькі ў адзін.* Вяроўка пэўнай даўжыні, не болей пяці метраў. Навезала ў воловод столькі снопоў, шчо ледзьві донесла. ***Вал.***

**ВОЛОСЕНЬ** (волосень), *ж.ужыв. толькі ў адзін.* Тонкая лугавая трава. Улез у таку волосень, шчо не вулезу. ***Буда-Саф.***

**ВОЛОКА** (волока), *ж.*1. Вяроўка. Волока лежыць на возі, чого ты ее шукаеш. ***Малеш.*** 2. Абора ў лапцях. Цепер волок не ўюць, постолоў мало хто носіць. ***Тонеж.***

**ВОЛОСАЧ** (волосач), *м. ужыв. толькі ў множн.* Брод на балоце. По шчавель ісці — трэбо волосач переходзіць. ***Дзёрн.***

**ВОЛОЧКА** (волочка), *ж.*1.Абора. Возьмі другу волочку, а тая порвалась у постоле. 2. Шнурок у чаравіку. Дзе ты дзеў волочку з чаравіка, мо згубіў, а? ***Галуб.***

**ВОНЬДЗЕКА** (воньдзека), *прысл.* Тут, у гэтым месцы. Воньдзека буў лес, а цепер однэ корчэ. ***Граб.***

**ВОПРАННЕ** (вопранне), *ніяк. ужыв. толькі ў адзін.* Адзенне, вопратка. Одзень вопранне, бо холонно. ***Верас.***

**ВОРОЦІЛО** (вороціло), *ніяк.* 1. Навойка ў ткацкім станку. Поверні вороціло, не стой. ***Тонеж.*** 2.Непаваротлівы чалавек. Ну й вороціло ты, не повернеш. ***Малеш.***

**ВОРУХАЦЦА** (ворухацца), *-ю-, -еш, незак. трыв.* Памалу хадзіць. Што ты так ворухаесся, ек нежыві! ***Буда-Саф.***

**ВОСЕКА** (восека), *прысл.* Вось тут. Восека я воўка бачыла, чуць уцекла. ***Брын.***

**ВОСКОДАЛ** (воскодал), *м. ужыв. толькі ў адзін.* Мядовы квас. Воскодал у мене такі добренны. ***Ляск.***

**ВОСКОВІК** (восковік), *м.* Цадзілка для сыру. Возьмі восковік да отцадзі сыр. ***Буда-Саф.***

**ВОТВЕДЫ** (вотведы), *ужыв. толькі ў множным.* Наведванне парадзіхі. На вотведы Любы Семенавай прышло мо з дваццаць баб. ***Зар.***

**ВОЦЕП** (воцеп), *м.* Вочап. Ле Макарового колодзезя поставілі нову воцеп. ***Зім. Буд.***

**ВОЧАПКА** (вочапка), *ж.* Кавалак вяроўкі, якою прывязваюць карову, калі дояць. Возьмі вочапку і прывежы корову. ***Санюк.***

**ВУГАН** (вуган), *м. ужыв. толькі ў адзін.* 1. Вясковая плошча. Пойду на вуган до людзей, мо што почую. ***Ляск.*** 2. Месца, куды выганяюць скот. Прогоні корову на вуган. ***Смят.***

**ВУГЛЯДКА** (вуглядка), *ж.* Люстэрка. Погледзела ў вуглядку і не познала себе — так постарела. ***Дзёрн.***

**ВУЖОВІК** (вужовік), *м.* Ядавіты грыб. А вужовіка можно прыняць за доброго грыба, за боровіка. ***Астраж.***

**ВУЙДА** (вуйда), *ж.ужыв. толькі ў адзін.* Вельмі цікаўная жанчына. А вуйда тая так і бегая по хатам. ***Верб.***

**ВУЛКА** (вулка), *ж.* Завулак. Карова зашла ў тую вулку, прыгані ее адтуль. ***Загал.***

**ВУЛЕХЧАЦЬ** (вулехчаць), -аю-, -еш-, *зак. трыв.* Кастрыраваць. Етого кабанчыка нам требо вулехчаць. ***Капц.***

**ВУНЯВО** (вуняво), *часціца.* Вунь. Настася вуняво ў печы вупаліла, а ты шчэ спіш. ***Васьк.***

**ВУПАСТОК** (вупасток), *м.* Аднагадовае цяля. Хорошы вупасток, гладкі, Арцём продае вупастка. ***Астраж.***

**ВУПУСТКА** (вупустка), *ж.* Месца выпасу скаціны. У нас блізко німа вупусткі, гонім товар далеко. ***Бокаў.***

**ВУСАЛАПІЦЬ** (вусалапіць), -ю-, -іш-, *зак. трыв.* Высунуць. Чаго ты вусалапіў язык? ***Гароч.***

**ВУСКАРОК** (вускарок), *м.* Кавалак смажанага сала. На сковородзе остаўса одзін вускарок, а то ўсе сало з'елі. ***Брын.***

**ВУТНУЦЬ** (вутнуць), -еш-, -у-, *незак. трыв.* Стукнуць. Ось я зараз цебе вутну. ***Партыз.***

**ВУТУРЫЦЬ** (вутурыць), -у-, -ыш-, *зак. трыв.* Выгнаць. Насілу вутурыла ету п'яніцу с хаты. ***Астраж.***

**ВУСКІДЗЬ** (вускідзь), *ж.ужыв. толькі ў адзін ліку.* Выкапаная яма, запоўненая вадой. Вускідзь неглыбокая, бо водой зарослa. ***Стад.***

**ВУХВОЦЕНЬ** (вухвоцень), *м.* Блін з цеста. Покуль огледзеласа, вухвоцень згарэў. ***Гарадз.***

**ВУЦЕЎСА** (вуцеўса), -у-, -еш-, *зак. трыв.* Так крепко вуцеўса об лёд шчо чуць устаў. ***Зім. Буд.***

**ВУЦІРАЛЬНІК** (вуціральнік), *м.* Ручнік. Унь на гвоздзіку вуціральнік, вутрыса ім. ***Верб.***

**ВУШАК** (вушак), *м.* Слуп у дзвярах. Вушак подгніў, дзверы перекосіло і не зачыняюцца. ***Асав.***

**ВУШКІ** (вушкі), *ужыв. толькі ў множн.* Столь з жэрдак обо дошчак у хляве. На вушках сена мало. ***М.Аўц.***

**ВУШМАРОВАЦЦА** (вушмаровацца), -ую-, -еш, *зак.трыв.* Вымазацца аб сцяну. Дай вутру спіну, вушмароваўса ек чорт. ***Астраж.***

**ВУШНЯК** (вушняк), *м.* Слуп у дзвярах. Вушняк шчэ крэпкі. ***Вял.Бор.***

**ВУШУЛО** (вушуло), *н.*, Слуп, на якім трымаюцца вароты ці калітка. Свіння почухаласа і вушуло вуваліло. ***Скрыг.***

**ВЯКАЦЬ** (вякаць), -ю-, -еш-, *незак. трыв.* Гаварыць не тое, што трэба. Не вякай, а скажы толкам. ***Партыз.***

**ВЯЛІЦА** (вяліца), *ж.ужыв. толькі ў адзін.* Сухое дрэва. Поехаў у лес да одной вяліцы нарубаў. ***Астраж.***

**ВЯРЭНЬКА** (вярэнька), *ж.* Невялікая лыкавая каробка з крышкай. Возьмі, Іван, вярэньку да несі есці бацьку на покос. ***Верас.***

**ВЯТРОЎКА** (вятроўка), *ж.* Завіца. Ко мне прыходзіла вятроўка. ***Смят.***

# Г

**ГАЛА** (гала), *н., ужыв. толькі ў адзін.* Тарфяністае балота без хмызняку, сенажаць. На вуліцы цепер нікога — ўсе на галі сена прыбіраюць. ***Звян.***

**ГАЛАШЧОК** (галашчок), *м., ужыв. толькі ў адзін.* Мёрзлая зямля. Мароз буў добры, такі галашчок на дварэ, што хоць бокам кацíся. ***Кам.***

**ГАЛДУНІКІ** (галдунікі). Вярэнікі. На абед буў боршч і галдунікі, боршч астаўся, а галдунікі паелі — такія смачныя. ***Карч.***

**ГАЛЕНЬ** (гален́ь), *м., ужыв. толькі ў адзін.* Венік без лісця, дзяркач. Возьмі гален́ь і подмеці пудлогу. ***Асав.***

**ГАЛЬКА** (галька), *ж.* Нешырокая стужка, што прышываецца да ніжняй часткі спадніцы. У цебе галька відно, хто тобе ўшываў ее? ***Ляск.***

**ГАЛЬНІК** (гальнік), *м.* Бярозавы венік. Вазьмі гальнік і вумеці двор. ***Астраж.***

**ГАЛЕЛЕЙКА** (галелейка), *ж.* Вешалка для адзення. Повесь паліто на галелейку і не дзержы ў руках. ***Верб.***

**ГАЛУЗІНА** (галузіна), *ж.* Вялікая палка. Ек возьму галузіну, то будзеш знаць у мене. ***Астраж.***

**ГАМАНЧЫК** (гаманчык), *м.* Кашалёк. Згубіла свой гаманчык, а там толькі трыццаць капеек грошай. ***Верб.***

**ГАНЯЦЦА** (ганяцца), *-ю-, -еш-.* Бегаць. Адаркі свіння шчэ малая, а за кнырамі ганяецца. ***Капц.***

**ГАЙСАЦЬ** (гайсаць), *-ю-,-еш-*. Бегаць без ладу. Не гайсай, чаго цебе чэрці носяць. ***Зар.***

**ГАРА** (гара), *ж., ужыв. толькі ў адзін.* Месца пад страхой у хаце. Да марозаў яблыкі на гарэ лежалі. ***Скрыг.***

**ГАРУСОЎКА** (гарусоўка), *ж.* Вялікая квяцістая шарсцяная хустка. Купіла ў цыганок гарусоўку. ***Карм.***

**ГАРЫНА** (гарына), *ж., ужыв. толькі ў адзін.* Ніткі для вышывання. Купіла ў Хвойніках гарыны, буду ручнік вушываць. ***Хвойн.***

**ГАТ** (гат), *м.* Перагароджанае месца на рацэ, пляцень праз раку з рыбалоўнымі лавушкамі. У етум гаці трэбо жакі поставіць, мо шчукі ўлезуць. ***Арав.***

**ГАРЧАК** (гарчак), *м., ужыв. толькі ў адзін.* Пустазелле, драсён. Як ні стараюса, а гарчак не зведу з гароду. ***Канат.***

**ГАЧОК** (гачок), *м.* Рыбалоўная прылада. Етым гачком добре ловіць рібу ў затоне. ***Конкав.***

**ГЕЙКА** (гейка), *ж.* Сяброўка-аднагодка. Пойду до свое гейкі, мо на луг по шчаўе сходзім. ***Івашк.***

**ГІБЗАВАЦЬ** (гібзаваць), *-ю-, -еш-.* Сачыць за кім-небудзь. От гібзуе за суседом, штоб почуць да перебрахаць. ***Верб.***

**ГІГІТАЦЬ** (гігітаць), *-у-, -аш-, незак. трыв.* Смяяцца без толку. Чаго ты гігічаш, нема нічога смешнага. ***Астраг.***

**ГІДКІ** (гідкі), *якасн.прым.* Непрыгожы, праціўны. Екі ў Гарпіны зяць гідкі. ***Ляск***.

**ГІЛЯРА** (гіляра), *ж.* Вялікая лодка. Подай гіляру, Іванко, поедом на луг по сено. ***Ляск.***

**ГІРКА** (гірка), *ж.* Гладышка з адбітым рылам. Була гірка ў мене і тая разбілась. ***Катл.***

**ГІЧ** (гіч), *ж., ужыв. толькі ў адзін.* Збуялыя сцяблы бульбы. Картоплі нема — уся ў гіч пашла. ***Мікул***.

**ГІЧАНЫ** (гічаны), *ужыв. толькі ў множн.* Бурачныя лісты, бацвінне. На градзе аж у пояс гічаны — такія буракі добрыя. ***Загал.***

**ГЛІЦА** (гліца), *ж. ужыв. толькі ў адзін.* Хвойныя іголкі, ігліца. Хвойнікам ішла — ногі гліцай пакалола. ***Макр.***

**ГЛУЗАВАЦЬ** (глузаваць), -ю-, -еш-, *незак.трыв*. Здзеквацца, падымаць на смех. Хлопцу шчэ й семнаццаці нема, а дзеўкі глузуюць з его, шчо не ўмее скакаць. ***Верб.***

**ГЛЯНЬБА** (гляньба), *дзеясл. заг. ладу*. Пабач. Гляньба, хто йдзе, мо с поля бацька. ***Зар.***

**ГОДУНЕЦ** (годунец), *м.* Гадованы парсюк. От кабанчык-годунец на сало хутко пойдзе. ***Ляск***.

**ГОЎЕ** (гоўе), *н., ужыв.толькі ў адзін.* Абагуленая назва дамашняй жывёлы. Одарко, ты накорміла гоўе? ***Брын.***

**ГОЛОЎКІ** (голоўкі), *ужыв.толькі ў множн.* Кужаль другараднага гатунку. Голоўкі прадуць на тоўстэ таке: на просцілкі, мешкі. ***Буд.Саф***.

**ГОРНО** (горно), *як.прысл.* Маркотна, сумна. Ек поехала моя Ліда ў Лельчыцы, то мне так горно стала. ***Чырвонабяр.***

**ГОРОТЧЫК** (горотчык), *м.* Адгароджаны закутак для маладняка: парасят, ягнят, цяляці. Надо одбіць горотчык для поросят. ***Жахав***.

**ГОЦАЦЬ** (гоцаць), -ю-,-еш-, *незак.трыв.* Моцна стукаць. Не гоцай так моцно, а то ступа развaліцца. ***Скал.***

**ГРАНКА** (гранка), *ж.* Града. Посодзілі дзве гранкі кортопляў і одну цыбулі. ***Верас.***

**ГРАСВА** (грасва), *ж.* Капаніца. Дзе ты, Анюто, грасву дзела? ***Васьк.***

**ГРАЦА** (граца), *ж.* Капаніца. Дзе мая граца, требо картоплі аграцоваць, бо вельмо зарослі. ***Навас***.

**ГУБКА** (губка), *ж.* Мера даўжыні красён, пражы, палатна па даўжыні сцяны хаты. Вуткала чатыры губкі палатна. ***Навас***.

**ГУЖВІНА** (гужвіна), *ж*. Арэля. Люблю на гужвіні гутацца. ***Астраж.***

**ГУЛЯ** (гуля), *ж*. Самаробная жаночая прычоска. Зрабіла Палажка гулю на галаве, што аж глядзець страшна. ***Аўрам.***

**ГУНУЦЬ** (гунуць), *-у-, -еш-, зак.трыв.* Моцна стукнуць. Ек гуне твой Хведор дзвермі, то аж хата колоціцца. ***Жах.***

**ГУНЬКА** (гунька), *ж.ужыв.толькі ў адзін.* Даматканы дыван. Вуткала гуньку на мост у хаці. ***Васіл.***

**ГУСКА** (гуска), *ж.* Вадзяныя лілііі: белыя, жоўтыя. У етай завадзі вечна столькі гусак: і белых, і жоўтых. ***Кам.***

**ГУСЦЕЖ** (гусцеж), *м. ужыв. толькі ў адзін.* 1. Густая маса круп пэўнай стравы. Бач, яка твая дзеўка хітрая: малако вупіла, а ўвесь гусцеж пакінула. ***Партыз.*** 2.Вельмі густы хмызняк. На балоці залезла ў такі гусцеж, адна лаза і алешнік, што чуць вулезла. ***Амельк.***

**ГУТАЛКА** (гуталка), *ж.* Арэля. Унь Цімох гуталку повесіў. ***Чырвонабяр.***

**ГУТАЦЦА** (гутацца), *-ю-, -еш-, незак.трыв.* Гойдацца. Хопіць гутацца на арэлі, пойдзем абедаць. ***Партыз.***

# Д

**ДАБУ** (дабу), *злучн.* Як. Ты дабу малы — усе дразнісса з дзецьмі, тобе больш работы нема. ***Ляск.***

**ДАЙЖЭ** (дайжэ), *злучн.* Нават. Сегодні дайжэ хата вугледала ек на паску, так светочна. ***Буда-Саф.***

**ДАЙКА** (дайка), *ж.* Надзел сенажаці. У цебе, Петро, хороша дайка, трава тут така густа, сена на корову хваціць. ***Ляск.***

**ДАЛАДУ** (даладу), *як.прысл.* Вельмі добра. Зрабі ўсе даладу, тады ідзі гуляць. ***Юркав.***

**ДАЛОЎКА** (далоўка), *ж., ужыв. толькі ў адзін.* Падлога. Не хадзі боса, бо далоўка холодна. ***Верб.***

**ДАЎМЕЦЦА** (даўмецца), *-ю-, -еш-, зак.трыв.* Дадумацца. Ета ж даўмеўся да таго, што пашоў прасіць каня ў такога злыдня. ***Кам.***

**ДАЦЮЛЬ** (дацюль), *акал.прысл.* Дагэтуль. Як пашоў зрання с хаты, дак і дацюль нема. ***Зар.***

**ДВОРНЯ** (дворня), *ж., ужыв. толькі ў адзін.*Калгасны двор. Ты пойдзеш сёння на дворню? ***Верас.***

**ДЗЕДУНЫ** (дзедуны), *м.* Дзяды, калючая трава. Покасілі дзедуны, а цепер хадзіць не можно, ногі колюць. ***Беразн.***

**ДЗЕРУНЫ** (дзеруны), ужыв. толькі ў множн. Бліны з бульбы. Сегодні дзеруны пекцімем. ***Дзёрн.***

**ДЗЮНДЗЯ** (дзюндзя), *м. і ж.* Неахайныя мужчына ці жанчына. От дзюндзя і не памуласа. ***Верас.***

**ДЖЫДЖАК** (джынджак), *м.* Вялікі камень, валун. Еты джыджак, што ў дварэ, шчэ наш дзед с поля прыўёз. ***Васьк.***

**ДОЙКА** (дойка), *ж.* 1.Даёнка. Вазьмі дойку і ідзі доіць карову. ***Гароч.*** 2. Сасок у вымя. Дойкі ў каровы потрескалісь. ***Верб.***

**ДОЎБАШКА** (доўбашка), *ж.* Прылада для абівання галовак ільну. Варо, ек ісцімеш, то возьмі с собой на лён доўбашку. ***Бакл.***

**ДОШЧАРНІК** (дошчарнік), *м.* Паркан з дошчак. От за хатой і дошчарнік от вуліцы ідзе. ***Буд.-Саф.***

**ДРАБУ** (драбу), *ужыв. толькі ў множн.* Драўляная лесвіца. Постаў драбу ле сцены, хай там стояць. ***Смят.***

**ДРАКА** (драка), *ж.* Цёртка для абдзірання бульбы. Схадзі, Андрэйка, прынесі драку, будзем драць картоплю на млінцы. ***Аўрам.***

**ДРАНІКІ** (дранікі), *ужыв. толькі ў множн.* Бліны з дзёртай бульбы. Трэ було б дранікаў на снеданне нацерці. ***Хвойн.***

**ДРАНКА** (дранка), *ж.* Бульбяная аладка. Дранкі со сметаною вельмі смачныя. ***Хобн.***

**ДРАПУНЫ** (драпуны), у адзін. — драпун. Бульбяныя бліны. Наша бабка пашці кажды дзень печэ драпуны. ***Замос.***

**ДРАЧ** (драч), *м.* Дзяркач. Дай драча ногі обмесці. ***Верас.***

**ДРАЧКА** (драчка), *ж.* 1.Сталярная прылада. Прынесі драчку — вона лежыць на столе. ***Верас.*** 2. Жасцяная цёртка. Ужэ драчка сцерлася — трэба новую купляць. ***Замос.***

**ДРОЎКА** (дроўка), *ж.* Карова з першым цялём, першацёлка. Дзе тое молоко, колі моя корова дроўка. ***Скалодз.*** У мене ў етум годзі корова дровачка. ***Верб.***

**ДРЫГА** (дрыга), *ж., ужыв. толькі ў адзін.* Халадзец. Дрыга ўдалася, смашна ў еты раз. ***Верб.***

**ДРЫН** (дрын), *м., ужыв толькі ў адзін.* Вялікая палка. От вазьмі да мельні парася етым дрынам. ***Кам.***

**ДРЫСЛЯК** (дрысляк), *м.* Друшляк. Подай мне дрысляка. ***Азяр.***

**ДРУЗ** (друз), *м., ужыв.толькі ў адзін.* Сумесь гліны з пяском. Ну й друзу с опечча, до вечора не выносім. ***Астраж.***

**ДУБ** (дуб), *м.* Вялікая лодка, у якой перавозяць розныя грузы: сена, дровы, рыбалоўныя снасці. У дубі седзелі рыбакі. ***Барб.***

**ДУБНІК** (дубнік), *м.* Могілкі пад засенню старасвецкіх дубоў. Хвороба заведзе цебе ў дубнік. ***Ляск.***

**ДУБРОЎКА** (дуброўка), *ж.* Корань лекавай расліны. Трэбо накопаць дуброўкі і зробіць настой. ***Буда Саф.***

**ДУПЛЕ** (дупле), *н., ужыв. толькі ў адзін.* Дупло ў дрэве. У етой осіны е дупле сівокрахі. ***Чырвонабяр.***

**ДУХАНУЦЬ** (духануць), *-у-, -еш-, зак.трыв.* Моцна штурхануць. Трэ было так духануць ету п'яніцу, што б аж ногі задраў. ***Пасел.***

## Е

**ЕДКЕЕ** (едкее), *як.прым.* Ядкое. Ето сено погодное, едкее. ***Астраж.***

**ЕК** (ек), *падпарадк. злучн.* Як. Ек ісцімеш на сено, то не забудзь с собой узяць вілкі. ***Пагост.***

**Е** (е), *дзеясл. звязка цяпер. часу.* Ёсць. У цебе е картопля? ***Юркав.***

**ЕРНІК** (ернік), *м., ужыв. толькі ў адзін.* Аер. Пошлі дзеці по ернік. Ерніком зарос ўвесь берег. ***Астраж.***

**ЕСТЫЯ** (естыя), *указ. займ.* Гэтыя. За туманом не відаць ні жонкі, ні естых людзей. ***Багуц.***

**ЕСЦЕКА** (есцека), *дзеясл.звязка цяпер.часу.* Ёсць. У цебе есцека хлеб? ***Зар.***

**ЕТАКІ** (етакі), *указ. займ.* Гэты. Етакого хлопца ты вырасціла. ***Навас.***

**ЕТО** (ето), *азн.часціца.* Гэта. Ето даўно було, калі тут цэркоў така красіва стояла. ***Буйн.***

**ЕТЫ** (еты), *указ. займ.* Гэты. Еты хлопец увесь у матку ўдаўса, языком усе меле й меле. ***Бабран.***

## Ё

**ЁЛКОЕ** (ёлкое), *якас.прым.* Старое салёнае жоўтае сала. Сало ўжэ старое, ёлкае. ***Ляск.***

**ЁМАЧНІК** (ёмачнік), *м., ужыв. толькі ў адзін.* Месца каля печы, дзе стаіць ёмка. Вуграб смецце з ёмачніку, дзе стаіць ёмка, пастаў туды венік. ***Пудак.***

## Ж

**ЖАБЕР** (жабер), *м., ужыв. толькі ў адзін.* Ядавітыя водарасці ў стаячай вадзе. Наш Іванко ходзіць по болоці, то жабер поеў чыста ногі. ***Верасн.***

**ЖАГА** (жага), *ж. ужыв. толькі ў адзін.* Пякучка. З'ела боршчу з несвежым м'ясом, дак жага ўвесь дзень печэ. ***Астраж.***

**ЖАЛЕЗНЯК** (жалезняк), *м.* Лапата. Возьмі жалезняк у сцепцы, да падкопай картоплі. ***Скрыг.***

**ЖАЛЯСКО** (жаляско), *н.* 1.Прас. Подай мне жаляско погладзіць сподніцу. ***Санюк.*** 2.Кружка з жэсці. Возьмі жаляско і насып жару. ***Слаб.***

**ЖАРАНКА** (жаранка), *ж.* Паджараная на сале бульба ў печы. Паглядзі, Вера, у печ — жаранка гатова? ***Юркав.***

**ЖВЕНЬКАЦЬ** (жвенькаць), *-ю-, -еш-, незак. трыв.* Гаварыць абы-што. І доўго тут мне будзеш жвенькаць? ***Ляск.***

**ЖЛУКЦІЦЬ** (жлукціць), *-у-, -іш-, незак.трыв.* Многа піць. Не жлукці столькі вады. ***Навас.***

**ЖУХНУЦЬ** (жухнуць), *-у-, -еш-, зак.трыв.* Упасці, праваліцца. Не бачыў пелькі — і жухнуў туды. ***Ляск.***

**ЖУР** (жур), *м. ужыв. толькі ў адзін.* 1.Страва, прыгатаваная з хлеба і малака. Захоцелосо журу ек от ліха. ***Пагост.*** 2.Аўсяны кісель. Звары, мамо, журу. ***Навас.***

**ЖЫГАЛКА** (жыгалка), *ж.* Маленькі шчупак. У кош улезла толькі тры жыгалкі. ***Ляск.***

**ЖЫВО-ДВА** (жыво-два), *склад.прысл.* Вельмі хутка. А я ось жыво-два — і ўсё зраблю. ***Скрыг.***

**ЖЫТКА** (жытка), *ж., ужыв. толькі ў адзін.* Жыццё. Хіба раней жытка була? ***Астраг.*** Цепер жытка добра. ***Астраж.***

**ЖЭНЬ** (жэнь), *ужыв.толькі ў адзін.* Лезіва, вяроўка, пры дапамозе якой зацягваюць вулей на хвою. Под хлевом даўно вісіць старая жэнь: вуллі нема кому везці ў лес. ***Скар.***

**ЖЭРТКА** (жэртка), *ж.* Жэрдзь. Унь под плотом лежаць жэрткі, а колі городзіцьмем — не знаю. ***Слаб.***

# З

**ЗАБАВІЦЦА** (забавіцца), -ю-, -іш-, *зак.трыв.* Загуляцца. Забавіўса так, што забуўса, што трэбо іці додому. ***Пагост.***

**ЗАБОРЫНЫ** (заборыны), *ужыв. толькі ў множн.* Складкі на вопратцы. Кажух буў шырокі, увесь у заборынах. ***Дзёрн.***

**ЗАВІВАНІК** (завіванік), *м.* 1. Коржык. На от з'еж завіванік, а то галодны. ***Цераб.*** 2. Дамашняе пячэнне. Смачные завіванікі ўдаліса на еты раз. ***Дзёрн.***

**ЗАВОКАНКА** (завоканка), *ж.* Аканіца. А ў Дзем'яна уге зелёные завоканкі. ***Курыц.***

**ЗАВОРКІ** (заворкі), *ужыв. толькі ў множн.* Вароты, што вядуць з двара на гарод. Зачыні заворкі, штоб ніяка скаціна ў гарод не ўлезла. ***Зім.Буда.***

**ЗАГОРОДА** (загорода), *ж.* Прыкрыты навес для саломы. Загорода була покрыта латамі, бо нема солому. ***Вял.Аўц.***

**ЗАГРАДА** (заграда), *ж.* Павець. У заградзі дрову лежаць. ***Смят.***

**ЗАДАЛЕГОДЗЬ** (задалегодзь), *прысл.* Зараней. Задалегодзь усе побраў, шо поехаць по дрову. ***Астраж.***

**ЗАДАЦЬ** (задаць), -ю-, -еш-, *зак.трыв.* Набіць. Не бегай по городу, бо бацько задасць табе, як прыдзе. ***Лук.***

**ЗАДРЫПАЦЬ** *(задрыпаць)*, -ю-,-еш-, *зак*.трыв. Запэцкаць, запырскаць граззю. Не ходзі по гразе — задрыпаеш споніцу. ***Валаўск.***

**ЗАЕДЗЬ** (заедзь), *зборн. назв., ж., ужыв. толькі ў адзін.* Абагуленая назва насякомых: мух, авадоў, камароў, сляпнёў. Худобу летам мучыцьме заедзь. ***Чырвонабяр.***

**ЗАКУТ** (закут), *м.* Невялікая прыбудова пры хляве. Загані гусі ў закут, кеб не крычалі на ўвесь двор. ***Юркав.***

**ЗАКАТНЫ** (закатны), *як.прым.* Поўны, масіўны. Закатны хлопчык у Марусі нарадзіўса. ***Верб.***

**ЗАЛІЦЬ** (заліць), -ю-, -іш-, *незак. трыв.* 1. Мыць. Трэбо на рэчку іці — заліць плацце. ***Тульг.*** 2. Кіпяціць у жлукце. Ужэ заліла плацце — пойду муць. ***Смят.***

**ЗАМІРГІТАЎ** (заміргітаў), -еш-, -ю-, *зак.трыв.* Зарагатаў. Одразу і заміргітаў, ек убачыў, шо ў канаву ўпала. ***Чырвонабяр.***

**ЗАПАЛАЧ** (запалач), *ж., ужыв. толькі ў адзін.* Ніткі для вышывання. Ета настольніца вушыта толькі запалаччу. ***Алякс.***

**ЗАПАСКА** (запаска), *ж.* Хвартух. Ось надзену запаску і пойду на вуліцу. ***Санюк.***

**ЗАПІНКА** (запінка), *ж.* Фіранка на акно. Повесь чыстые запінкі на вокны: заўтрэ веселле. ***Вял.Аўц.***

**ЗАРОГА** (зарога), *ж.* Невялікая затока на рацэ. У туюю зарогу часто заходзяць подусты. ***Ляск.***

**ЗАРОГ** (зарог), *м.* Паўвостраў. Той зарог зарос травой. ***Астраж.***

**ЗАРЭ** (зарэ), *прысл.* Зараз. Погуляй у нас, зарэ мамо прыдзе, повечэраем. ***Лісн.***

**ЗАРЫВАЕ** (зарывае), *-ю-, -еш-, незак. трыв.* Пры спяванні падымае высока голас. Ну й зарывае як спевае, не падведзеш сваім голасам ему. ***Кам.***

**ЗАСКАЦЕНЬ** (заскацень), *м. і ж.* Нецярплівы чалавек, выскачка. От не дасць і слова сказаць — еты заскацень. ***Канат.***

**ЗАСЛАНКА** (засланка), *ж.* Кавалак жэсці, якой зачыняюць печ. Зачыні засланкай печ. ***Карав.***

**ЗАСЛОН** (заслон), *м.* Драўляная лаўка, услон. 1. На заслон пасадзі дзіця. ***Скалодз.*** 2. Стул. Подай, Куліні заслон а то прышла і стоіць у порозі. ***Ляск.***

**ЗАСТОРОНОК** (засторонок), *м.* 1. Вугал у адрыне ці гумне, дзе захоўваецца збожжа ці сельгаспрылады. Жыто складзено ў одзін засторонок, а граблі і вілкі — у другі. ***Буда Саф.*** 2. Перагародка ў хляве для маладняка. Донька, возьмі да пудкінь травы ў засторонок для целяці. ***Канат.***

**ЗАСЦІЦЬ** (засціць), *-у-, -іш-, незак. трыв.* Закрываць. Не засці мне, атыйдзі ат акна. ***Курыц.***

**ЗАТКАЛО** (заткало), *н., ужыв. толькі ў адзін.* Пробка. Андрэй, зробі хутчэй заткало ў бутоль. ***Чырвонабяр.***

**ЗАХАКАЦЦА** (захакацца), *-ю-,-еш-, зак.трыв.* Задыхацца. Так захакаўса бежкі. ***Скалодз.***

**ЗАХОЛОД** (захолод), *м., ужыв. толькі ў адзін.* Студзень, халоднае. Такі смачны захолод, шо весь поелі. ***Букч.***

**ЗАШЭРХНУЦЬ** (зашэрхнуць), *-у-, -еш-, зак.трыв.* Пакрыцца тонкім лёдам. За ноч вода ў ведре зашэрхла. ***Астраж.***

**ЗАШЧАПКА** (зашчапка), *ж.* Клямка ў дзвярах. Пацягні зашчапку — дзверы атчыняцца. ***Зар.***

**ЗАЯДА** (заяда), *ж., ужыв. толькі ў адзін.* Чалавек, які любіць спрачацца, уступаць у спрэчку ці бойку. Наш бацько буў такі заяда ек вуп'е. ***Астраж.***

**ЗБАЁДАЛІ** (збаёдалі), -ю-,-еш-, *зак.трыв.* Згубілі. Ужэ збаёдалі дзеці дзета малаток. ***Юркав.***

**ЗДЫРДЗІЦЦА** (здырдзіцца), -у-, -іш-, *зак.трыв.* Памерці. Сусед не стары, а хутка здырдзіўся от гарэлкі. ***Карч.***

**ЗЕЛЛЕ** (зелле), *н., ужыв. толькі ў адзін.* Зарос гарод зеллем. ***Верб.***

**ЗЕЛЕЗНЯК** (зелезняк), *м.* Рыдлёўка, лапата. Возьмі зелезняк да йдзі картоплю копаць. ***Асав.***

**ЗЕБРЫ** (зебры), *ужыв. толькі ў множн.* Зубы (грубав.) Дай ему ў зебры, штоб не выскаляўся. ***Карч.***

**ЗЭМБЕЛЬ** (зэмбель), *м., ужыв. толькі ў адзін.* Кошык для ягад. Моя Ніна набрала цэлы зэмбель буякоў. ***Зім. Буда.***

**ЗІМКА** (зімка), *ж.* Зімняя шапка-вушанка. Купляй зарэ зімку, а то пазней не найдзеш. ***Смят.***

**ЗЛАПАЦЬ** (злапаць), -ю-,-еш-, *зак.трыв.* Злавіць. Куру свіння злапала, ледзь отобралі от ее. ***Зім. Буда.***

**ЗЛІВОК** (злівок), *м.* Гладыш з малаком. Свежэ молоко ў зліўку — возьмі да еж. ***Малеш.***

**ЗЛОСНІК** (злоснік), *м., ужыв. толькі ў адзін.* Від пустазелля, дзікі маркоўнік. Злоснік росце на загонох, разорох. ***Буда-Сафр.***

**ЗЛЫГІЧ** (злыгіч), *м., ужыв.толькі ў адзін.* Кавалак вяроўкі, якой раней злыгалі валы. Валоў цяпер немашака, і злыгіч валяецца ў павеці. ***Спяр.***

**ЗМАТЛАШЫЦЬ** (зматлашыць), -у-,-ыш-, *зак. трыв.* Моцна пабіць. Нашага суседа Івана так зматлашылі п'янага ў клубі, што ледзь ногі прыцёг дадому. ***Карч.***

**ЗНІКУЛЬ** (знікуль), *прысл.* Аднекуль. Знікуль жонку собе Петро прывёз і нікому не кажэ. ***Астраж.***

**ЗНІМАЦЦА** (знімацца), -ю-, -еш-, *незак.трыв.* Фотаграфавацца. Учоры му зняліся ўсёй сям'ёй. ***Зар.***

**ЗУБУ** (зубу), *ужыв.толькі ў множн.* Каронкі для ручнікоў. Вувесіла суседка ручнікі, так такіе красівуе зубу. ***Тонеж.***

**ЗУБЛЕНКА** (зубленка), *ж.* 1. Папяроса з табаку-самасаду. Цэлы дзень не вуймае з роту зубленку. ***Мікул.*** 2. Запаленая парахня. Патушы зубленку, хай не гарыць. ***Загал.***

# К

**КАБАТ** (кабат), *м.* Верхні цёплы пінжак без рукаваў. Будзеш іці па дровы, то накінь кабат, бо вельмі холадна. ***Бурк.***

**КАБОША** (кабоша), *ж.* Рыбалоўная прылада. Ну й кабошу зробіў, шо і полоніка не зловіш. ***Замош.***

**КАБУЛКА** (кабулка), *ж.* Вочка ў ніце, праз якое працягваюць ніткі асновы. Слепа ўжэ стала, што праз кабулку нітку ніяк не процегну. ***Смят.***

**КАВЕШНІК** (кавешнік), *м., ужыв. толькі ў адзін.* Вугал ля печы, дзе стаяць ёмка, качарга, вілкі. От напекла млінцоў і паставіла ёмку ў кавешнік. ***Юркав.***

**КАВЕР** (кавер), *м., ужыв. толькі ў адзін.* Забалочаная даліна [illegible] ў каверц. [illegible]

[illegible] (каверт), *м.* Невялікае азярцо. У нас на лузі много кавертоў, дзе ловяць рыбу. ***Ляск.*** 2. Нізкае забалочанае месца ў полі. Таке сено добрэе, у каверце наўкошваў. ***Скрыг.***

**КАВЕННІК** (кавеннік), *м., ужыв. толькі ў адзін.* Вугал ля печы, дзе ставяць венік. У кавеніку стаіць венік. ***Юркав.***

**КАВЯНЯ** (кавяня), *ж. ужыв. толькі ў адзін.* Качарга. Возьмі кавеню ў кавешніку да вугробі жар. ***Скрыг.***

**КАДОБА** (кадоба), *ж.* Драўляная бочка, дзежка. У мене шчэ цэлая кадоба проса. ***Валаўск.***

**КАДОЎБ** (кадоўб), *м.* Невялікае азярцо на лузе. У етум кадоўбі можно половіць рыбу. ***Балаж.***

**КАЖУШКА** (кажушка), *ж.* Невялікая шчучка. Хведор багато наловіў кажушок. ***Верасн.***

**КАЗАН** (казан), *м.* Чыгун. Зворыла ў печы казан кортоплі. ***Ляск.***

**КАЗЛЯК** (казляк), *м.* Усякі ядомы грыб, апрача баравікоў. Набраў кошель одных казлекоў. ***Астраж.***

**КАЗУСТКА** (казустка), *ж.* Мужчынская жылетка. Пошыла казустку свойму чоловеку. ***Смят.***

**КАЛАТУША** (калатуша), *ж. ужыв. толькі ў адзін.* Зацірка. На вечэру зварыла калатушу з молоком. ***Вял. Аўц.***

**КАЛАТУШНІК** (калатушнік), *м.* Баязлівец. Сеў еты калатушнік у лотку і боіцца переехаць Прыпець. *Ляск.*

**КАЛЕЙКА** (калейка), *ж.* Чарга. Стань і ты ў калейку за хлебом. ***Малеш.***

**КАЛІЎНІК** (каліўнік), *м., ужыв. толькі ў адзін.* Бульбянік. На городзе каліўнік ужэ посох. ***Брын.***

**КАЛІНАВІК** (калінавік), *м., ужыв. толькі ў адзін.* Страва, зацірка з мукі і ягад каліны. Пасёрбалі ўнукі калінавік і пабеглі ў школу. ***Небыт.***

**КАЛІЦЬ** (каліць), *-ю-, -іш-, незак.трыв.* Бяліць. Трэбо каліць печ. ***Замош.***

**КАЛЮГА** (калюга), *м.* і *ж.* 1. П'яніца. Ну й калюга еты Максім. ***Малеш.*** 2. Лужына. Ета калюга мало калі вусыхае. ***Ляск.***

**КАЛЯКАЕ** (калякае), *-ю-, -еш-, незак. трыв.* Гаварыць незразумела, мала вядома. Што ён там калякае с суседкой? ***Ляск.***

**КАЛАДАН** (каладан), *м.* Нож з драўлянай ручкай. Возьмі каладан на столе і нарэж хлеба. ***Малеш.***

**КАМАКІ** (камакі), *ужыв. толькі ў множн.* Бульбянае пюрэ. На вечеру камакі і кіслыя гуркі — больш нічога нема. ***Брын.***

**КАМУ** (каму), *ужыв. толькі ў множн.* Бульбянае пюрэ. Вазьмі міску с печы — там каму с салам. ***Зар.***

**КАМЕДНО** (камедно), як. прысл. Цікава, смешна. Камедно ты гаворыш. ***Сан.***

**КАМЕНІЦЫ** (каменіцы), *ужыв. толькі ў множн.* Лясныя чырвоныя ягады з камяністым ядром. Вольго, ходзем у лес по каменіцы. ***Хобн.***

**КАМЕШНІК** (камешнік), *м., ужыв. толькі ў адзін.* Куток ля печы. Кавеню і вілкі постаў у камешнік. *Дубр.*

**КАНАПА** (канапа), *ж.* Лаўка са спінкаю для сядзення ў хаце. Праходзьце ў хату да садзіцесь на канапі. ***Бурк.***

**КАНАПЛЯНКА** (канаплянка), *ж.* Вялікая паўшарсцяная хустка. Абапнула канаплянку і пашла на работу. ***Кам.***

**КАНАПЛЯНІК** (канаплянік), *м.* Верабей. Дзеці пад страхой вукруцілі кубло канаплянікаў. ***Спяр.***

**КАНЮШКА** (канюшка), *ж.* Торба. Пашыла сабе канюшку і хаджу па шчавель на поплаў. ***Небыт.***

**КАНІ** (кані), *ужыв. толькі ў множн.* Вярэнікі. Нема белай мукі, а то зварыла б кані. ***Карч.***

**КАНДЗЕЦЬ** (кандзець), ***-у-, -іш-***, *незак. трыв.* Настойліва прасіць, дамагацца свайго. Перастань кандзець — слухаць надоело. ***Ляск.***

**КАЎГАНКА** (каўганка), *ж.* Гліняная міска. Подай каўганку з заціркой. ***Валаўск.***

**КАРАГЛЕ** (карагле), *зб. наз., ужыв. толькі ў адзін.* Гарадкі. Пойдзем у карагле погуляем. ***Верасн.***

**КАПА** (капа), *ж.* Пакрывала для ложка. Засцелі ложак капай. ***Зар.***

**КАРАЎЧАНІК** (караўчанік), *м.* Карабейнік. Твоя сорочка така грязна, шчо толькі караўчаніку отдаць. ***Курыц.***

**КАПОТ** (капот), *м., ужыв. толькі ў адзін.* Сукенка, часам халат. Пашыла такі капот, што на вуліцу не вуйдзеш. ***Карч.***

**КАПТАНІК** (каптанік), *м.* Жаночая кофта. Ходзіла до швейкі по каптанік, а ена не пошыла. ***Скрыг.***

**КАПТУРОК** (каптурок), *м.* Вопратка для груднога дзіцяці з капюшонам. Надзень дзіцяці каптурок. ***Смят.***

**КАРАЎКА** (караўка), *ж.* 1. Анучы і іншая веташ. Занесі [illegible] куцці. ***Зар.*** 2. Неахайная жанчына ці мужчына. Ну й караўко стая Хвядора, у хату улезьці нельга. ***Кам.***

**КАРЫ** (кары), *ужыв. толькі ў множн.* Вялікія сані, цегачы. Етыя кары ледзь трактар вязе. ***Карч.***

**КАСНІК** (каснік), *м.* Стужка. Уплеці мне ў косы розавы каснік. ***Веляц.***

**КАТАНКІ** (катанкі), *ужыв. толькі ў множн.* Самаробныя валёнкі. Катанкі стопталіса, требо другіе. ***Смят.***

**КАЎБУХ** (каўбух), *м.* Свіны страўнік, начынены мясам. На блясі печэцца каўбух. ***Верасн.***

**КАЎГАНАК** (каўганак), *м.* Сальнічка, у якой трымаюць соль. Купіла хорошы каўганак. ***Свірын.***

**КАЎЗЕЛЬ** (каўзель), *м., ужыв. толькі ў адзін.* Каток. Ек пошоў мой унучок на той каўзель, то не дозовешса. ***Замош.***

**КАЎЗЕЛІЦА** (каўзеліца), *ж., ужыв. толькі ў адзін.* Галалёд, абліваха. Така каўзеліца ўсюды, што ходзіць не можно. ***Зім.Буда.***

**КАЎКАЕ** (каўкае), *-ю-, -еш-, незак. трыв.* Мяўкае. Так доўга кошка каўкае — есці хоча. ***Спяр.***

**КАЎМЫ** (каўмы), *ужыв. толькі ў множн.* Тоўчаная бульба, пюрэ. На вечеру толькі каўмы с кіслым молоком. ***Конкав.***

**КАЎПАКІ** (каўпакі), *ужыв. толькі ў множн.* Шампіньёны, грыбы. Куліна назбірала так багато каўпакоў ле свого гароду. ***Віць.***

**КАЎЦЁБ** (каўцёб), *м.* Выгаралае месца на балоце. У тым каўцёбі дзеці карасёў наловілі. ***Скрыг.***

**КАЧАТЫ** (качаты), *ужыв. толькі ў множн.* Уключыны ў лодцы. Лотка далеко, але чутно, ек качаты скрыпяць. ***Ляск.***

**КВАСОЛЯ** (квасоля), *ж., ужыв. толькі ў адзін.* Фасоль. У нас на гародзі багато квасолі. ***Дубр.*** Квасолю пасадзіла. ***Кам.***

**КВАСОВІК** (квасовік), *м., ужыв. толькі ў адзін.* Суп з садавіной. Квасовік зварыла са свежых яблык і груш. ***Дзёрн.***

**КВАСОЎКА** (квасоўка), *ж., ужыв. толькі ў адзін.* Кампот. Сухіх яблык і груш нема, то і квасоўкі нема с чаго зварыць. На абед толькі боршч да квасоўка. ***Спяр.***

**КВЕЦАЦЬ** (квецаць), *-ю-,-еш-, незак.трыв.* 1. Крэмзаць, дрэнна маляваць. Мой Сашок не малеваў, а крэмзаў. ***Дзёрн.*** 2. Неразборліва пісаць. От наквецоў, шо ніхто не разбере. ***Пагост.***

**КЕБ** (кеб), *падп.злучн.* Каб. Хай дачка ідзе замуж за Жорыка, кеб толькі добра було ёй там. ***Кам.***

**КЕЛЯ** (келя), *м., ужыв. толькі ў адзін.* Недагадлівы чалавек. Ну й келя ты — нічого не понімаеш. ***Ляск.***

**КІЗА** (кіза), *ж.* Невялікая рыбка-верхаводка. Кругом хлеба на водзе собралосо богато кіз. ***Галуб.***

**КІСЛЯК** (кісляк), *м.* Адстоенае кіслае малако. Молоко постояло, зробілосо кіслеком. Вупі еты кісляк. ***Дзёрн.***

**КІТАЙКА** (кітайка), *ж.* Даматканы квяцісты пояс. Патперазала кітайкай пінжак і пашла на работу. ***Зар.***

**КІЦУНЫ** (кіцуны), *зборн. назв.* Махры на канцах хусткі ці абруса. Купіла веліку хустку с кіцунамі. До настольніцы прышыла кіцуны. ***Астраж.***

**КІШКІ** (кішкі), *ужыв. толькі ў множн.* Нутраная мякаць гарбуза. Мо цэлы час вубірала кішкі з гарбузоў. ***Кам.***

**КІЯХ** (кіях), *м.* Пачатак кукурузы. Варыла кіяхі. З грады прынесла кіях. ***Кам.***

**КІЯШНІК** (кіяшнік), *м., зборн.назв.* Кукурузнік. На етай градзе адзін толькі кіяшнік астаўся. ***Загал.***

**КЛАЧАНКА** (клачанка), *ж.* Плісавая жакетка. Купіла клачанку ў лаўцы. Клачанку надзену, на вуліцу пайду. ***Хвойн.***

**КЛУБ** (клуб), *м.* Бядро нагі. Баліць клуб, так круціць, мабуць радзікуліт усхадзіўся. ***Зар.***

**КЛЮЧЫНЫ** (ключыны), *ужыв. толькі ў множн.* Кроквы. Роман поставіў новыя ключыны, хутко хлеў крыцьме. ***Навас***.

**КЛЯНДРО** (кляндро),*н., ужыв. толькі ў адзін.* Банька ў папрузе. Попруга е, а кляндро оторваласа. ***Конкав.***

**КЛЯШНІК** (кляшнік), ***м.*** Верхняя частка рыбалоўнай сеці. З воды показаўса кляшнік, хутко сець будзе.

**КОБ** (коб), *падпарадк. злучн.* Каб. Я не пошла п у кіно, коб Міша не зайшоў за мной. ***Букч.***

**КОБУЛКА** (кобулка), *ж.* Вочка ў ніце, праз якое працягваюць ніткі асновы. Кобулку згубіла, нітку не процегну. ***Смят.***

**КОЗАКІ** (козакі),*зборн.назва*. Рагаза. Зробіла плецёнку цыбулі з козакоў. ***Астраж.***

**КОКНІ** (кокні), *ужыв. толькі ў множн.* Пазногці. Ого, екіе кокні вурослі ў цебе. ***Капц.***

**КОКОРА** (кокора), *ж.* Дуга ў лодцы, да якіх прыбіваюць дошкі. Цегні кокоры, лотку робіцьмем. З етой галіны можно зробіць крепкую кокору. ***Ляск.***

**КОЛОДЗЕЙСЬ** (колодзейсь), *м.* Студня. Колодзейсь у нас вельмо глыбокі. ***Дзёрн***.

**КОЛОДЗЕЦЬ** (колодзець), *м., ужыв. толькі ў адзін.* У колодзеці поўно воды. ***Малеш.***

**КОМЛЯ** (комля), *ж.* Рыбалоўная прылада. Беры комлю да пойдом ловіць карасі. ***Астраж***.

**КОМОРКА** (коморка), *ж.* Памяшканне для дроў. Клалі ў коморку дрову, коб сохлі. ***Скар***.

**КОПАНЬ** (копань), *ж.* Невялікі штучны вадаём. Етые малые воду змуцілі ў копані. ***Партыз***.

**КОРАК** (корак), *м.* Брудная ануча. На плоці шчэ два коракі вісіць. Не споднiца ў Маланкі, а корак. ***Астраж.***

**КОРКІ** (коркі), *ужыв. толькі ў множн.* Абцасы ў туфлях. Ох і коркі ў тухлях ее, ек гвоздзікі. ***Курыц***.

**КОСТУР** (костур), *м., ужыв. толькі ў адзін.* Палка. Возьмі костур да прожені корову з городу. ***Ляск***.

**КОЎБІК** (коўбік), *м., ужыв. толькі ў адзін.* Страўнік, начынены мясам. Напхала коўбік м'ясом і повесіла пот стреху. ***Скар***.

**КОЦ** (коц), *м., ужыв. толькі ў адзін.* Даматканае пакрывала. Вуткала коц для ложка. ***Санюк.***

**КОРТ** (корт), *м., ужыв. толькі ў адзін.* Моцная баваўняная тканіна чорнага колеру. Отмерай мне, Лексо, чотыры

метры корту. Пошыла штаны старому с корту. ***Астраж.***

**КОСЦЕРУХА** (косцеруха), *ж., ужыв. толькі ў адзін.* Зборная назва пустазелля яравых: аўса, пшаніцы, ячменю. Пшаніцы не відно — одна косцеруха. Косцеруха на сено пойдзе. ***Астраж.***

**КОТНАЯ** (котная), *як.прым.* Назва авечкі ці казы, якія хутка павінны даць прыплод. Була авечка котная, дак зарезаў воўк. ***Верб.***

**КРАМІНА** (краміна), *ж., ужыв. толькі ў адзін.* Адрэзак тканіны. Прынесла нейкую краміну і хваліцца. Купіла краміну на кохту собе. ***Малеш.***

**КРАПАК** (крапак), *м.* Моцнае яйка. Хітры: вуброў крапака і обдурвае дзецей. ***Верб.***

**КРАСНЮК** (краснюк), *м.* Падасінавік. Краснюкі ростуць у дуброві. Набрала цэлы кошэль краснюкоў. ***Скарод.***

**КРОМКА** (кромка), *ж.* Скарынка хлеба. Хлеба нема — одна толькі кромка осталаса. Трэбо хлеба купіць, а то на поліцы одны кромкі валяюцца. ***Малеш.***

**КРУХ** (крух), *м.* Крумкач. Онь крух над нечым кружыць. Собралосо круxoў на полі. ***Малеш.***

**КРЫВОТЛІВУ** (крывотліву), *як.прым.* Зайздросны. Наш сусед Кузьма такі крывотліву, што здаецца ўсіх праглынуў бы. Крывотліву чалавек паганы — яму ўсе мала. ***Сцеж.***

**КРЫВОТА** (крывота), *ж., ужыв. толькі ў адзін.* Зайздрасць. У нашых суседаў такая крывота да нас, што ўзялі б да звялі нас са свету. ***Хвойн.***

**КРЫНДЖАЛЫ** (крынджалы), *ужыв. толькі ў множн.* Саніцягачы. Вазьму крынджалы да трактара — атразу прыцегну стох. ***Спяр.***

**КРЫШАНЫ** (крышаны), *ужыв. толькі ў множн.* Бульбяны суп. Крышаны шчэ не зварыліса. На снеданне одны крышаны. ***Малеш.***

**КУБАШКА** (кубашка), *ж.* Пячурка ў печы каля шыі. Погледзі ў кубашку, мо там лежацьме спічкі. ***Буда Саф.***

**КУБЛО** (кубло), *н.* Гняздо птушкі. Гледзі хорошэ, кубла не роскідай. На хвоі кубло бусла. ***Дзёрн.***

**КУБЛІЦЦА** (кубліцца), -ю-, -іш-, *незак.трыв.* Доўга адзяваццa, абуваццa. Дакуль ты будзеш кубліцца ў хаці, на работу ўсе пашлі. ***Зар.***

**КУБРАК** (кубрак), *м.* Пінжак. Надзела кубрак і пошла по воду. ***Зам.***

**КУВЕНЯ** (кувеня), *ж*. Качарга. Жар вуграб куваней. Подай мне кувеню головешку растоўкці. ***Дзёрн***.

**КУВЕННІК** (кувеннік), *м., ужыв. толькі ў адзін*. Вугал ля печы, дзе стаяць ёмка, качарга, вілкі, венік. Возьмі дзеркач у кувенніку. Замеці смецце ў кувеннік. ***Арав.***

**КУКСА** (кукса), *ж*. Карова са зломаным рогам. У стадзі толькі адна кукса — маланчына карова. ***Зар.***

**КУЛЬБАКА** (кульбака), *ж*. Прылада для вымярэння поля, даўжынёю два метра. Брыгадзір наш узяў кульбаку і пашоў поле мераць. ***Зар***.

**КУЛІДКА** (кулідка), *ж*. Круглы, выпечаны ў печы на паду хлеб. Дастань с паліцы кулідку хлеба. Спекла аж п'яць кулідак хлеба. ***Сан***.

**КУМА** (кума), *ж*., *ужыв. толькі ў адзін.* Вараная тоўчаная бульба. На вечэру толькі кума з молоком, больш нічога не варылі. ***Млын.***

**КУПОВАЦЬ** (куповаць), -ю-,-еш-, *незак.трыв*. Купляць штонебудзь. Тацяно, пошлі ў лаўку куповаць хусткі. У Петрыкові накуповалі такіх хорошых хусток. ***Ляск***.

**КУРДУПЕЛЬ** (курдупель), *м*. Вельмі нізкага росту мужчына. У Анісі мужык такі маленькі, такі курдупель. ***Юркав***.

**КУРОНЯК** (куроняк), *м*. Невялікі курэнь, зроблены з галля. Дзеці з галля ольхі куроняк зробілі. ***Малеш***.

**КУХОР** (кухор), *м*. Скрыня для захоўвання адзення. Отчыні кухор, возьмі і одзень нову хустку. ***Малеш.***

**КУХВАЙКА** (кухвайка), *ж*. Фуфайка. Надзень кухвайку, а то замерзнеш. ***Дубр***.

**КУХЛІК** (кухлік), *м*. Невялікая фарфоравая чашка. Налі ў кухлік малака. ***Зар.***

**КУЧМА** (кучма), *ж*., *ужыв. толькі ў адзін.* Шапка-вушанка. Ігнат у Лельчычах купіў таку добру кучму. ***Сяр.Печ.***

**КУЦЯБА** (куцяба), *ж*., *ужыв. толькі ў адзін*. Качарга. Возьмі куцябу і вугробі з грубы жар. ***Свірын***.

**КУЦЕЙКА** (куцейка), *ж*. Жоўтыя кветкі, што растуць у забалочаных месцах азёр, сажалак і іншых вадаёмах. У нашым возеры столькі куцеек, што аж вода жоўтая. ***Малеш***.

# Л

**ЛАЗАНКІ** (лазанкі), *ужыв. толькі ў множн. ліку*. Пяльмені дамашняга вырабу. Замесіла цеста на лазанкі, такія смачныя булі, што ўсе паелі. ***Паташ.***

**ЛАЙНО** (лайно), *н., ужыв. толькі ў адін. ліку.*Саматканая старая падсцілка. Вазьмі лайно і ідзі па траву для цяляці. ***Тульг.*** 2. Падол спадніцы. Накапала картоплі ў лайно для вечэры. ***Вял. Аўц.***

**ЛАСКАВІК** (ласкавік), м. Сумка для адцэжвання сыру. Ласкавік сыру атцадзіла. ***Кам.***

**ЛАТА** (лата), *ж.* Жэрдзь, якой абстаўляюць дах хаты ці хлява. Латы прыбілі, а крышы нема. Падай лату на хлеў. ***Спяр.***

**ЛАТАЦЬ** (латаць), -ю-, - еш-, *незак. трыв.* Прышываць, крапіць. Скінь сарочку, трэба латаць локці, а то бегаеш с парванымі. ***Хвойн.***

**ЛАТКА** (латка), *ж.* Невялікі кавалак старой тканіны. Падай латку, зашыю калена. На ім лата на лаце, бо сядзіць у хаце. ***Зар.***

**ЛАТУН**(латун), *м.* Стары паношаны пінжак ці світа. Скінь хоць етого латуна, бо гледзець гідко. ***Астраж.*** 2. Дрэнна адзеты стары селянін. Екі латун еты Ахрэм. ***Буд. Саф.***

**ЛЕГА** (лега), *ж.* Сцёс унізе бервяна, што кладзецца ў зруб. У етум дзераві лега вельмо малая, то й погано лежацьме. ***Смят.***

**ЛЕЖАК** (лежак), *м.* Калодчаны вулей. Одзін лежак пуд хлевом, а другі пуд яблуней. ***Лісн.*** .

**ЛЕЖАНЬ** (лежань), *м.* 1. Вельмі лянівы чалавек. Ну й лежань у Мар'і сын, нічога не робіць, цэлы дзень гульма гуляе. ***Зар.***

**ЛЕПЕТУН** (лепетун), *м.* Чалавек, які многа гаворыць, пляткар. От лепетун еты Іван — ніколі не сціхае. ***Астраж.***

**ЛЕСКА** (леска), *ж.* Невялікая лесвіца ў пограбе. Зробіў леску і лазім ў погроб. ***Буд. Саф.***

**ЛЕТНІК** (летнік), *м.* Пінжак. Надзень летнік і бежы по воду. ***Тульг.***

**ЛЁШАК** (лёшак), *м. ужыв. толькі ў адзін.* Пограб. Схадзі ў лёшак і прынесі гуркоў. ***Кам.***

**ЛІПАЎКА** (ліпаўка), *ж.* 1. Пасудзіна для сыпучых цел: мукі, круп. Насыпаў цэлу ліпаўку пшана. ***Хвойн.*** 2. Грыбы — сыраежкі. Бувало, ліповок напеком на жару ў лесі да і едзім. ***Буд. Саф.***

**ЛІСАВУ** (лісаву), *як. прым.* Ліслівы. Ну й лісаву твой хлопец. ***Кам.***

**ЛІСАПЕТА** (лісапета), *ж. метатэза.* Веласіпед. Постаў лісапету ў сенцы і перастань по двору катацца. ***Арав.***

**ЛІШТВА** (ліштва), *ж. ужыв. толькі ў адзін.* Падбіўка знізу ў сукенцы або спадніцы. Гля ек у цебе отпоролоса ліштва ў твоей сподніцы. ***Брын.***

**ЛІСЮКІ** (лісюкі), *у адзін. ліку* — лісюк. Грыбы — лісічкі. У березніку назбірала ведро лісюкоў. ***Верасн.***

**ЛУПАЙКА** (лупайка), *ж.* Лушпайка з бульбы, ачыстка. Подымі лупайку, не роскідай, лупайкі карова есь. ***Астраж.***

**ЛУТО** (луто), *н. ужыв. толькі ў адзін.* Статак кароў. Сегонні цэлы дзень пасціла луто. ***Пухав.***

**ЛУЦЦЕ** (луцце), *н. ужыв. толькі ў адзін.* Лыка з лазы ці маладой ліпы. Луцця нема — пасталоў му не носім. ***Зар.***

**ЛЫЧКО** (лычко), *н.* Нізка сушаных грубоў. У етум годзі мало грыбоў — однэ лычко насушыла. ***Замош.***

**ЛЯЛЯК** (ляляк), *м.* Птушка з сямейства савіных. Ляляк сядзе пуд ломом і знесе яечко. ***Буд. Саф.***

**ЛЯПАЦЬ** (ляпаць), -ю-, -еш-, *незак. трыв.* Моцна стукаць. Не ляпай дзвярамі, а то голова боліць. ***Буд. Саф.***

**ЛЯЧЭ** (лячэ), *н. ужыв. толькі ў адзін.* Аер. Пойду на болото, лячэ нарву, хай пахне ў хаце. ***Буд. Саф.***

## М

**МАБУЦЬ** (мабуць), *прыслоўе.* Пэўна. Мабуць, пойдзе дошч. Ты, мабуць, не вуспаўса. ***Брын.***

**МАГЕРКА** (магерка), *ж.* Летняя шапка. Возьмі магерку і збегай за целям на болонье. ***Ляск.***

**МАЖЧЭР** (мажчэр), *м. ужыв. толькі ў адзін.* Жалезная ступка для драблення спецаў: перцу, лісту, бабкоў і іншых. Вазьмі мажчэр і стаўчы перцу. ***Юркав.***

**МАЗІЦЦА** (мазіцца), -у-, -іш-, *незак.трыв.* Сваволіць, дурэць. Мазіцца ек дзіця малэе. ***Майс.***

**МАЗКА** (мазка), *ж.* Подмазка. Дастань мазку - млінцоў напечэм. ***Муціж.***

**МАЙ ЗМАЯВАЎ** (май змаяваў), *фраз.выраз.* Знішчыць дашчэнту. Нічога ат хаты не асталося пасля пажару, як май змаяваў ее. ***Зар.***

**МАКАТКА** (макатка), *ж. Вышыўка.* Така хороша макатка на ручніках у Еўгі. ***Малеш.***

**МАКОВІК** (маковік), *м.* Піражок з макам. Еж маковікі са смятанай і збегай ў лаўку. ***Казлов.***

**МАКОТРА** (макотра), *ж.* Гліняная пасудзіна. Купіла макотру ў гончара, даўно іх не було. ***Казлов.***

**МАКУХА** (макуха), *ж.* 1. Льняная жмыха пасля выціскання алею з семя. Калісь му білі алей, макуху варылі свінням. ***Зар.*** 2. Лянівы і тупы хлопец. У Ігната хлопец ек макуха: ні вучыць, ні рабіць. ***Верб.***

**МАЛЁЎКА** (малёўка), *ж.* Малюнак. Нарысоваў таку малёўку, шо не разберэш, шо да чаго. ***Малеш.***

**МАНКЕТ** (манкет), *м.* Манжэт. Манкет отпороўса — зашый. ***Смят.***

**МАНТАЧКА** (мантачка), *ж.* Прылада для кляпання касы, мянташка. Вазьмі мантачку ў павеці да надзень на касу. ***Зар.***

**МАРКАЛЬ** (маркаль), *м.* Баран. Вугань маркаля з двара, чаго ён прыбег. ***Зар.***

**МАРЫМОНЬСКА** (марымоньска), *аднос. прым.* Белая мука першага гатунку. Еты хлеб з марымоньскай мукі. ***Астраж.***

**МАРЫНАРКА** (марынарка), *ж.* Кароткі пінжак. Купіў марынарку на базары ў Турові. ***Малеш.***

**МАРШЧАК** (маршчак), *м.* Лапаць. Колісь на скокі ідзеш у маршчаках. ***Астраж.***

**МАСНІЦА** (масніца), *ж.* Дошка ў падлозе. Масніца падгніла, трэба другую ўставіць. ***Кам.***

**МАТАНЕ** (матане), *н. ужыв. толькі ў адзін.* Безрукавая кофта, тыпу кімано. Дуня купіла красівае матане ў Хвойніках. ***Пташ.***

**МАТУШКА** (матушка), *ж.* Клубок нітак. Варо, дзе ты дзела матушку жоўтых нітак. ***Ясян.***

**МАТЫЛЬ** (матыль), *м.* Коржык. На абед, апроч баршчу, са смятанаю матылі. ***Карч.***

**МАЦЕРЫНКА** (мацерынка), *ж.* Лекавая трава. Трэ нарвацъ мацерынкі ў лесі, чай заварыцъ. ***Буд. Саф.***

**МАЦЫКЛЕТ** (мацыклет), *м.* Матацыкл. Цяпер я анігадкі, мацыклет купіў, будзе чым ездзіцъ у поле. ***Юркав.***

**МАСЛЮК** (маслюк), *м.* Чарвяк-слізень. Маслюкі на гнілых колодах і грібах буваюцъ. ***Буд. Саф.***

**МАХАТКА** (махатка), *ж.* Гладышка. У Зосі ўвесь чыстакол увешаны махаткамі. Купіла махатку ў ганчара. ***Партыз.***

**МАЧОЛЬНІК** (мачольнік), *м., ужыв. толькі ў адзін.* Кавалак тканіны для выцірання посуду. Сотры мачольнікам лаўку і стола. ***Дзёрн.***

**МАШОК** (машок), *м.* Невялікае балотца, зарослае мохам. Я ўчора хадзіла ў машок і надрала там цэлы мяшок моху. ***Кам.***

**МАШЧАРЫК** (машчарык), *м.* Жалезная ступка для спецаў. Требо стаўкці ў машчарыку перцу. ***Палаўк.***

**МАЛЯС** (маляс), *м., ужыв. толькі ў адзін.* Самаробнае павідла з цукровых буракоў. Наварыла малясу, хай дзеці ядзяцъ с каржамі. ***Зар.***

**МЕРЛЯ** (мерля), *ж., ужыв. толькі ў адзін.* Марля, тканіна. У лаўку мерлі прывезлі, трэбо ўзяцъ, бо хутко разберуцъ. ***Зім. Буд.***

**МЕТА** (мета), *ж.* 1.Кляймо. Трэ зрабіцъ мету на вуцянятах, тады будзеш знацъ іх. 2. Яма, у якую закопваюцъ бульбу ці іншыю гародніну. Раскопай мету, сыпацьмем бульбу сюды. Му засыпалі таку веліку мету картоплі на городзе. ***Капц.***

**МІКАЦЬ** (мікацъ), -ю-, -еш-, *незак. трыв.* Рыкацъ (да кароў, цялят). Корову нешто мікаюцъ цэлы дзень, мо што чуюцъ. ***Чырвонабяр.***

**МІРГОВАЦЬ** (мірговацъ), -ю-, -еш-, *незак. трыв.* Абдумывацъ што-небудзь, вырашацъ. Мірговалі, мірговалі, дай годзе сказалі. ***Астраж.***

**МІТАЛЬГАМ** (мітальгам), *прысл.* Вельмі хутка. Я мітальгам збегаю ў сад за слівамі. ***Васьк.***

**МЛІНЕЦ** (млінец), *м.* Блін. Падай млінца. На снеданне адны млінцы. ***Зар.***

**МЛІНЦЭ** (млінцэ), *ужыв. толькі ў множн.* Бліны. Разбоўтала млінцэ, бо ўжэ ў печы вугорае. ***Ляск.***

**МОГЛІЦЫ** (могліцы), *ужыв. толькі ў множн.* Могілкі. Етак

хорошэ у нас веснόю на могліцак. ***Пагост.***

**МОМЕЛ** (момел), *м., ужыв. толькі ў адзін.* Абагуленая назва вадзяных раслін: лапухоў, аера і іншых траў, у якіх любяць жыраваць шчупакі. Момел трэбо крыгою опхваціць, коб поймаць шчупака ці іншую рыбу. ***Жах.***

**МОСТ** (мост), *м.* Падлога. Сусед наш нову мост послаў. Добрэ шаруй, шчоб мост буў чысты. ***Арав.***

**МОТ** (мот), *м.* Клубок нітак. Мо сто матоў нітак наматала на зіму на матавілі. ***Тульг.***

**МОТАК** (мотак), *м.* Пасма нітак. На плоці вазьмі мотак нітак. Яўдоха развесіла свае маткі па ўсяму чыстаколу. ***Крыўч.***

**МОТО** (мото), *прысл.* Пэўна. Мото цётку да нас чэрці несуць. ***Астраж.***

**МОТУЗ** (мотуз), *м.* Невялікі кавалак шнурка ці аборы. Вазьмі еты мотуз да завежы мешок. ***Кам.***

**МУ** (му), *ас.займ.1-ай асобы.* Мы. Му булі ў клубі на танцах. ***Зар.***

**МУКАЦЬ МУЧОК** (мукаць мучок), *фраз. выраз.* Напрасці пэўную меру. З етой кудзелі можно намукаць мучок дзесець. ***Астраж.***

**МУЛІЦЬ** (муліць), -ю-,-еш-, *незак.трыв.* Ціснуць. Чобаты знутры намоклі і вельмі муляць ногі. ***Кам.***

**МУЛТА** (мулта), *ж., ужыв. толькі ў адзін.* Фланель, байка. У лаўцы ўзята мулты на халат. ***Арав.***

**МУРАК** (мурак), *м., ужыв. толькі ў адзін.* Прыпечак. Згоні кота з мурка. Постаў дзежу на мурок. ***Дзёрн.***

**МУРЗА** (мурза), *ж., ужыв. толькі ў адзін.* 1. Страва, прыгатаваная з чарніц, мукі і цукру. Смачная мурза со свежых ягод. ***Пагост.*** 2. Абагуленая назва неахайнаму чалавеку. Ну й мурза еты Іван, відаць, у баню не ходзіць. ***Спяр.***

**МУРЛАТЫ** (мурлаты), *як.прым.* Чалавек з вялікім тварам і скуламі. Екі ж некрасіві еты Дзем'ян, такі мурлаты. ***Дзямід.***

**МУСІТКА** (мусітка), *прысл.* Пэўна. Мусітка дошч пойдзе, бо хмарыць. ***Карав.***

**МУСЛЮК** (муслюк), *м.* Вуж. Ек укусіць муслюк, то рана доўго-доўго не заростае. ***Буд. Саф.***

**МУЧАНІЧНІК** (мучанічнік), *м., ужыв. толькі ў адзін.* Лекавая трава, накшталт брусніцы. Сходзіла ў лес, мучанічніку нарвала, добрэ от головы, жывота. ***Буд.Саф.***

**МУЧКА** (мучка), *ж., ужыв. толькі ў адзін.* Густая кароткая і жорсткая трава ў лесе. Мучка больш расце каля дубоў і бяроз. Пашукай ў муцџы баравікоў. ***Кам.***

**МУЧОК** (мучок), *м., ужыв. толькі ў адзін.* Жменя лёну. От намучу мучок да спраду. ***Пагост.***

**МЯНТАШКА** (мянташка), *ж.* Прылада, пры дапамозе якой востраць касу. Вазьмі мянташку да навастры косу. ***Юркав.***

**МЯНТАШЫЦЬ** (мянташыць), -у-,-ыш-, *незак.трыв.* Вастрыць. Як добра памянташыш косу, то луччай бярэ. ***Зар.***

**МЯТЛУХА** (мятлуха), *ж., ужыв. толькі ў адзін.* Мятліца. На етум поплаві одна мятлуха вуросла. ***Казлов.***

**МЯЦЕЛЬНІК** (мяцельнік), *м., ужыв. толькі ў адзін.* Вузкая затока, якая мае хуткае цячэнне. Апхвацім волоком еты мяцельнік, мо плоток уловім. ***Жах.***

**М'ЯЛА** (м'яла), *м., ужыв. толькі ў адзін.* Вельмі непаротлівы чалавек. Ну й м'яла ў Пятрыхі хлопец. ***Кам.***

**М'ЯЛЬНІЦА** (м'яльніца), *ж.* Куча наваленага адзення. Мото ўжэ й моя кохта ў мяльніцу попала. ***Казлов.***

## Н

**НАБГОМ** (набгом), *як.прысл.* Вельмі хутка. Нема кружкі, п'ю набгом з ведра. ***Ляск.***

**НАБІВАНКА** (набіванка), *ж., ужыв. толькі ў адзін.* Квашаная капуста ў дзежцы пад гнётам. На маладзіку шаткавалі капусту — такая набіванка добрая. ***Карч.***

**НАБІЛКІ** (набілкі), *ужыв. толькі ў множн.* Ткацкая прылада. Етые набілкі да берда не потходзяць. ***Гленіц.***

**НАБІРАК** (набірак), *м.* Невялікі кошык для ягад, ягаднік. Прынесла повен набірак суніц, у однэм месце набрала. ***Малеш.***

**НАБУКРОІЦЬ** (набукроіць), -ю-,-еш-, *зак.трыв.* Падбухторыць на які-небудзь дрэнны ўчынак. Так набукроіла мого Івана жонка, шчо й до маткі стаў погано относіцца. ***Верб.***

**НАГДОВЕСЬ** (нагдовесь), *прысл.* Нядаўна. Нагдовесь прыходзіў у госці братаніч. ***Тульг.***

**НАДОЕЧЫ** (надоечы), *прысл.* На днях. Надоечы ў лес хадзіла,

одных козлекоў набрала. **Савіч.**

**НАДЗЕВАНКА** (надзеванка), *ж., ужыв. толькі ў адзін.* Фаршыраваная рыба. Зрабіла надзеванку, не знаю яка будзе. ***Тульг.***

**НАЛОЖЫЦЬ** (наложыць), -у-,-ыш-, *зак.трыв.* Надзець рукавіцы. Коля, сынок, наложы рукавіцы, а то рукі поотмерзаюць. ***Карав.***

**НАЛІЧНІК** (налічнік), *м.* Па-мастацку зробленыя упрыгожанні вонкавага боку акон. Подай мне налічнік. Налічнікі ў Хведоровой хаці вельмо красівуя. ***Буд.Саф.***

**НАЛУПАШЫЦЬ** (налупашыць), -у-,-ыш-, *зак.трыв.* Набіць за правіннасць. Так налупашыла свого хлопца, што гуркі потоптаў. ***Цераб.***

**НАЛЯСНІКІ** (наляснікі). Тонкія бліны з мукі. Одзін наляснік згореў. Напекла наляснікоў на бед. ***Верас.***

**НАМЕТКА** (наметка), *ж.* 1. Кавалак марлі. Трэба абвязаць палец, а нема наметкі. ***Тульг.*** 2. Кавалак палатна, якім абвязваюць сватоў у час вяселля. Пообвезалі наметкамі і пошлі сватэ с хаты. ***Карав.***

**НАПАКІ** (напакі), *прысл.* Наадварот. Ты чоботы напакі обуў. ***Ляск.***

**НАПОХВАЦІ** (напохваці), *прысл.* Напагатове. Ек була корова на цеденні, то лампа стаяла напохваці. ***Верб.***

**НАПРАНАЦЦА** (напранацца), -ю-,-еш-, *незак.трыв.* Накрывацца. Напрані на сябе коўдру — цяплей будзе. ***Кам.***

**НАРАД** (нарад), *м., ужыв. толькі ў адзін.* Ткацкі станок. Прынесі нарад у хату, будам ставіць кросны. ***Зар.***

**НАРОЖНІК** (нарожнік), *м.* Корж. Спекла нарожнікі на бед. ***Хвойн.***

**НАРУЧНІК** (наручнік), *м.* Даматканы ручнік. Вазьмі наручнік да вутрысся. ***Карч.***

**НАЎСКЛАД** (наўсклад), *прысл.* Заараць. Ек загон орецца і борозна к борозне прыкладаецца, то наўсклад. ***Астраж.***

**НАШКРАБАЦЬ** (нашкрабаць), -ю-,-еш-, *незак.трыв.* Дрэнна напісаць. Нешта не паняць, што ты тут нашкрабоў? ***Скал.***

**НАЦЯГІЧ** (нацягіч), *м.* Бондарская прылада, пры дапамозе якой нацягіваюць абручы на колы або на драўляны посуд. Без нацягіча обручы на дзежку не нацягнеш. ***Астраж.***

**НЕВЕРНЯК** (неверняк), *м., ужыв. толькі ў адзін.* Лекавая трава. Ек болела, то піла неверняк. Неверняк на поплаві росце. ***Буд.Саф.***

**НЕКСЯ** (некся),*прысл.* Нeяк. Шыю сукню, да некся не вуходзіць. ***Карав.***

**НЕ ПАТЫКАЦЦА** (не патыкацца), -ю-,-еш-, *незак.трыв.* Не хадзіць. Наговорыў здуру, а цепер і не потыкайся туды. ***Верб.***

**НІЗКА** (нізка), *ж.* Звязка сушаных грыбоў. У етум годзі грыбоў нема, одну нізку насушыла. ***Чырвонабяр.***

**НІ ШЧАВОЎКНУЦЬ** (ні шчавоўкнуць), -у-. -еш-, *зак. трыв.* Ні шалахнецца, поўная цішыня. На дварэ ціхо, ні шчавоўкне нідзе. ***Верб.***

**НІШКОМ** (нішком), *як. прысл.* Цішком без шуму. А ты нішком зробі і не говоры нікому . ***Ляск.***

# О

**ОДНОРОГ** (однорог), *м. ужыв. толькі ў адзін.* Прылада для лоўлі рыбы. Мое хлопцы однорогом богато рыбу поймалі. ***Ляск.***

**ОДДЗЕКА** (оддзека), *прысл.* Тут. Вон толькі шчо седзеў оддзека. ***Дзёрн.***

**ОДРЫНА** (одрына), *ж.* Хлеў, памяшканне для хатняй жывёлы. Зажэні ў одрыну свіньe і гусі. ***Карав.***

**ОЖЫНА** (ожына), *ж.* Ажына. Заўтра по ожыны пойдзем. Ожына поспела. ***Малеш.***

**ОЖЫННІК** (ожыннік), *м. ужыв. толькі ў адзін.* Ажыннік. Поколола ногі і рукі ў ожынніку, покуль вулезла. ***Ляск.***

**ОПЕЧОК** (опечок), *м.* Апечча, аснова печы. Зробіў опечок, кладзі цэглу. ***Буд. Саф.***

**ОПОЛОК** (ополок), *м.* Абрэзак дрэва. Доскі пойдуць на пудлогу, а ополкі на штахет. ***Ляск.***

**ОПУДЭЙЛО** (опудэйло), *ніякі, ужыв. толькі ў адзін.* 1. Пудзіла на агародзе. Постаў, Роман, опудэйло на городзе. ***Ляск.*** 2. Лянівы і непаваротлівы чалавек. Ну й хлопец у цябе, ек опудэйло. ***Ляск.***

**ОРОБЕЙ** (оробей), *м.* Верабей. Дзеці зловілі ороб'я. ***Ляск.***

**ОТВЕДЫ** (отведы), *ужыв. толькі ў множн.* Збор жанчын каля парадзіхі. Ходзіла до Надзі ў отведы, хлопчыка родзіла. ***Верб.***

**ОТКІНУЎ ЧОБОТЫ** (откінуў чобаты), *фраз. выраз.* Памёр. Мой сусед Ігнат мо с п'яць годоў ек откінуў чоботы. ***Ляск.***

**ОТОЧЫНЫ** (оточыны), *ужыв. толькі ў множн.* Тушанае сала з мясам. На вечеру растопіцьмем оточыны і ўкінем у картоплю. ***Ляск.***

**ОШЫНА** (ошына), *ж.* Жалезны абруч на коле воза. Я б табе скаваў колёсы, да нема ошыны. ***Верб.***

## *П*

**ПАГНОІ** (пагноі), *ужыв. толькі ў множн.* Гароды. Гані гусей вуліцай, а не пагноямі. Целя пабегла на пагноі. ***Мал. Аўц.***

**ПАДБОР** (падбор), *м.* Абцасы ў чаравіках або ў туфлях. Падборы ў туфлях ек гвоздзікі. Атарваўса падбор, прыбіць трэбо. ***Глін.***

**ПАДВЕДЗЕНКА** (падведзенка), *ж.* Вялікая хустка з дробенькімі кветкамі па краях. Купіла красівую падведзенку ў цыганок. ***Карм.***

**ПАДПАЛАК** (падпалак), *м.* Скавароднік, спечаны з цеста. Хлеба нема, то трэба падпалак спекці. ***Зар.***

**ПАЗУР** (пазур), *м.* Вялікі ногаць на пальцах. Ого, екія пазуры на ногах вуросціла. ***Малеш.***

**ПАКЛЫЧЫЦЦА** (паклычыцца), -у-, -ыш-, *зак. Трыв.* Паблычыцца, пакруціцца. Уся мая воўна паклычылася, праць нельга. ***Карав.***

**ПАЛАТНЯНКА** (палатнянка), *ж.* Сукенка, пашытая з палатна. Пашыла собе палатнянку. Палатнянкі ў лаўку прывезлі. ***Глін.***

**ПАЛАХНІ** (палахні), *ужыв. толькі ў множн.* Лапці. Цепер не носяць палахнеў, хіба на покус. ***Смят.***

**ПАЛЕЙБА** (палейба), *заг.форма дзеясл.* Глянь. Палейба, хто йдзе? ***Вял. Аўц.***

**ПАМОСТ** (памост), *м., ужыв. толькі ў адзін.* Падлога ў хаце. Насця, вумуй памост чыста. ***Дубр.***

**ПАНАЖЫ** (панажы), *ужыв. толькі ў множн.* Ткацкая прылада. Прынесі панажы. Панажы паламілісе. ***Карм.***

**ПАНДЮР** (пандюр), *м.* Пячкур, невялікая рыба. Зловіў пандзюра. ***Малеш.***

**ПАНІЧЫ** (панічы). Кветка павоя. Пад вечар расцвілі панічы. ***Небыт.***

**ПАПАЧАПАЦЬ** (папачапаць), -ю-, -еш-, *зак.трыв.* Папахадзіць, многа хадзіць. Папачапаць па лесу прыдзецца нямала. ***Партыз.***

**ПАПЛІСА** (папліса), *ж., ужыв. толькі ў адзін.* Доўгая палка. Вазьмі тую паплісу да перацягні свінню, бо ў гарод улезла. ***Кам.***

**ПАПОРАЦЦА** (папорацца), -ю-,-еш-, *зак.трыв.* Вытапіць печ і наварыць есці сямі і худобе. Я сёдня зараня папоралася. ***Карав.***

**ПАРАВАН** (параван), *м., ужыв. толькі ў адзін.* Занавес у хаце, што аддзяляе ложак ад астатняй часткі хаты. Краму на параван набрала. Уставай, годзе спаць за параванам. ***Партыз.***

**ПАРАНКА** (паранка), *ж., ужыв. толькі ў адзін.* Прыгатаваны для каровы корм. Паранка астыла — можно несці. Насеклі оўсянкі — паранку робіцьмем. ***Астраж.***

**ПАРОНКІ** (паронкі), *ж., ужыв. толькі ў множн.* Вараная бульба ў мундзірах. Хіба ето вечера — одны паронкі. ***Малеш.***

**ПАРЭНЧА** (парэнча), *ж.* Перакладзіна паміж верхнімі брусамі моста. Дзяржысь за парэнчу, а то звалісся ў рэчку. ***Зар.***

**ПАСКА** (паска), *ж.* Узоры на трыкатажных вырабах. Купіла кохтачку з красівой паскай. Жэмпер добры і паскі хорошы на ім. ***Замос.***

**ПАСМА** (пасма), *ж., ужыв. толькі ў адзін.* Аснова красён у сорак нітак. Твая пасма ў колькі губак? Усю пасму свінні парвалі. ***Зар.***

**ПАСТАЎ** (пастаў), *м.* Рулон даматканага палатна каля дзесяці метраў. Наткала пяць паставаў палатна. ***Юркав.***

**ПАТВАРАЦЬ** (патвараць), -ю-, -еш-, *незак. Трыв.* Не звяртаць увагі на свавольства дзяцей. Не патварай яму, бо вурасце хуліган. ***Карч.***

**ПАТВОРА** (патвора), *м., ж.* Свавольнік, свавольніца. Паглядзі, што твая патвора робіць. ***Кам.***

**ПАТРАЎКА** (патраўка), *ж., ужыв. толькі ў адзін.* Страва, накшталт верашчакі. Даўно не варыла патраўкі. ***Навас.***

**ПАТЫКАЦЦА** (патыкацца), -ю-, -еш-, *незак.трыв.* Заходзіць па якіх-небудзь справах. Табе нельга патыкацца туды— зругаюць. ***Хвойн.***

**ПАЎСАК** (паўсак), *м., ужыв. толькі ў адзін.* Кароткі

даматканы суконны пінжак (устар.) Цепер паўсак не шыюць. ***Паташн.***

**ПАХАТУХА** (пахатуха), *ж., ужыв. толькі ў адзін.* Жанчына, якая часта бегае ад хаты да хаты і збірае плёткі. Не люблю я Клаву — ена така пахатуха, толькі і збірае сплетні. ***Скалодз.***

**ПАЦЕПНІК** (пацепнік), *м., ужыв. толькі ў адзін.* Дробныя, абцярэбленыя галіны, сукі. Зложы еты пацепнік у кучу та подполі. ***Смят.***

**ПАЦІРАЧ** (пацірач). Ручнік, які вытканы з грубой ільнянай пражы. Донько, подай мне пацірач. ***Карм.***

**ПАЦЯГАНКА** (пацяганка), *ж.* Від сярмягі, пінжак на ваце. Федзя, накінь пацяганку да жані карову. Калісь шылі пацяганкі сваеў дамашнія шаўцы. ***Кам.***

**[illegible]** ([illegible]), *м., ужыв. толькі ў адзін.* Клін у поле навоя. Зробіў пацыгіча, шоб круцілася навоя. ***Мал. Аўц.***

**ПАЧОСКІ** (пачоскі), *ужыв. толькі ў множн.* Ільновалакно пасля часання яго грэбнем. А што з етых пачосак будзеш рабіць? На ручнікі пойдуць. ***Кам.***

**ПЕЛЬ** (пель), *ж.* Нізкая забалочаная даліна. А ў етай пелі, як я помню, толькі капусту садзяць. Загані целя да прывежы. ***Кам.***

**ПЕЛЬКА** (пелька), *ж.* Проруб у рэчцы зімою. Постаў у ету пельку кош, мо уюны ўлезуць. Порубаны пелькі на рэццы — духі ставяць. ***Махн.***

**ПЕЛЮСТКА** (пелюстка), *ж.* Ліст качана капусты. Нарві пелюсток да дай корові. Качана нема — одны пелюсткі. ***Астраж.***

**ПЕРВАЧКА** (первачка), *ж.* Карова з першым целем. Карова первачка, дак і малака нема. С первачкі які ўдой — усё целяці. ***Кам.***

**ПЕРЕБОРЫСТЫ** (переборысты), *як.прым.* Пераборлівы. Переборысты твой Іван у цебе ек поглежу. ***Скал.***

**ПЕРЕМОТА** (перемота), *ж.* Памылка ткачыхі пры снаванні кроснаў. Адарко, у цебе столькі перемотоў пры снованні кросен. ***Смят.***

**ПЕРНІК** (пернік), *м.* Коржык дамашняга выбару. Напекла поўну місу пернікоў. Возьмі унь пернік да з'еж. ***Махн.***

**ПЕРЕТОК** (переток), *м.* Ручэй, што злучае рэчку са старым руслом яе. Сходзіла за переток, целяці травы нажала. У перетоку вода така холодна. ***Зім. Буд.***

**ПІГАРКА** (пігарка), *ж.* Зверху прыгарэлая бульба, прыгарка. Знімі пігарку і еж. Мае дзеці любяць пігаркі. **Верб.**

**ПЛАМЕТНЫ** (пламетны), *як. Прым.* Вельмі ўзбуджаны. Екі ты пламетны, Адам, гаворыш што зра і не соромеесса. ***Верб.***

**ПЛАСКУША** (пласкуша), *ж., ужыв. толькі ў адзін.* Трава, пустазелле. Якая добрая хазяйка Арына — увесь гарод зарос пласкушай. ***Зар.***

**ПЛОВУХА** (пловуха), *ж., ужыв. толькі ў адзін.* Рачная трава, у якой жыруюць лін, карась, язь. У пловусі поймаць цяжко рыбу. ***Жах.***

**ПЛЮХА** (плюха), *ж., ужыв. толькі ў адзін.* Аер. Прыўез колеснік сена да не вельмо добрее — одна плюха. ***Бакл.***

**ПЛЮШНІК** (плюшнік), *м., ужыв. толькі ў адзін.* Аер. Сходзі за плюшнікам на балота да накідай долі — хай пахне. ***Кам.***

**ПЛЯШКА** (пляшка), *ж.* Бутэлька. Возьмі на покус пляшку молока. ***Скалодз.***

**ПОВОД** (повод), *м.* Кавалак вяроўкі. Беры повод і ведзі корову на болонье пасціць. ***Верасн.***

**ПОГАНЮКА** (поганюка), *ж.* Вужака. Богато поганюк у нашым болоці, не ходзі туды. Беры палку і бі ету поганюку. ***Сяр.Печ.***

**ПОДБІЛКА** (подбілка), *ж., ужыв. толькі ў адзін.* Падкладка ў адзенні. Яка ў тваім пальце подбілка? Саціну на подбілку ўзяла. ***Дзёрн.***

**ПОДДЗЕЎКА** (поддзеўка), *ж., ужыв. толькі ў адзін.* Пінжак без рукаў. Поддзеўка шчэ новая — можно носіць. Граб.

**ПОДНОЖНІК** (подножнік), *м.* Палавік для пакою. Ек помуеш мост, то посцелі подножнік. Подножнікі можно вуткаць. ***Капц.***

**ПОДПАЛОК** (подпалок), *м.* Хлеб, спечаны ў печы на патэльне. Хлеба нема одны подпалкі. Ну й подпалок у цебе — згореў увесь. ***Дараш.***

**ПОЙГРАНАК** (пойгранак), *м., ужыв. толькі ў адзін.* Жвавае дзіця, свавольнік. Ну й пойгранак у цебе твой Жэнька. ***Юркав.***

**ПОКАМЕСЬ** (покамесь), *прысл.* Пакуль. Покамесь сходзіш, то й обед готоў. Покамесь упраўлюсь с хозяйством, то й вечер. ***Ляск.***

**ПОЛАТКІ** (полаткі), *ужыв. толькі ў множн.* Вышкі ў хляве

пад страхою. Скінь с полаток сена. ***Буд. Саф.***

**ПОЛОЙКА** (полойка), *ж.* Палова квашанага качана капусты. Положы ў кайструлю полойку — тушыцьмем капусту. ***Чырвонабяр.***

**ПОПРАДКІ** (попрадкі), *ужыв. толькі ў множн.* Вячоркі, збор дзяўчат — прах у хаце. Цепер на попрадкі не ходзяць — нема чого прасці. Колісь прыходзілі й хлопцы на попрадкі гуляць. ***Курыц.***

**ПОРАЦЦА** (порацца), -ю-, -еш-, *незак.трыв.* Паліць печ і рыхтаваць вячэру ці снеданне. Трэба хутчэй порацца, на работу нада. ***Сцежар.***

**ПОРГАБ** (поргаб), *м.* Пограб. Схадзі ў поргаб і прынесі міску гуркоў. Заваліла снегам увесь поргаб. ***Хвойн.***

**ПОЎРЭ** (поўрэ), *н., ужыв. толькі ў адзін.* Вырай. Вот ужэ і од нас пташкі ў поўрэ полецелі. ***Буд. Саф.***

**ПОРЦЯКІ** (порцякі), *ужыв. толькі ў множн.* Штаны з даматканага палатна. Помула порцякі і повесіла на плот. ***Ляск.***

**ПОСТАЦЬ** (постаць), *ж.* 1. Цень. Чыя ж то постаць відаць — не разбяру. ***Зар.*** 2. Невялікі ўчастак азімых ці яравых. Вужала одну постаць, занела другую. ***Смят.***

**ПОСЦІЛКА-ВІЛЕНКА** (посцілка-віленка), *ж.* Даматканае пакрывала на ложак з рознакаляровымі ўзорамі. Вуткала посцілку-віленку. Ганна аж п'яць посцілак-віленак наткала. ***Крыўч.***

**ПОХРАМОК** (похрамок), *м.* Невялікая хмарка. Такі похмарок над лесом. Одны похмаркі, мо на дошч зберецца. ***Астраж.***

**ПОЦВІНАК** (поцвінак), *м.* Паўгадовы парсюк. Накармі поцвінка. Поцвінкі ладныя, трэба карміць на сала. ***Кам.***

**ПОЦЕРУБ** (поцеруб), *м., ужыв. толькі ў адзін.* Ачышчаны ад кустоўя поплаў. Пасцілі целяты на поцерубі. ***Вал.***

**ПОЦІТАК** (поцітак), *м.* Густое рэшата. Падай поцітак, ён вісіць на калу. На базары поціткі дарагія. ***Юркав.***

**ПОЧАПКА** (почапка), *ж.* Кавалак вяроўкі, што служыць прыладай для нясення розных пасудзін ці дзіцячай калыскі. Вазьмі за почапку і пакалышы дзіця. ***Карч.***

**ПОЧЫНОК** (почынок), *м.* Верацяно з пражай. За ўвесь вечар напрала толькі одзін почынок. ***Ляск.***

**ПРАЛЬНІК** (пральнік), *м.* Пранік для абівання ільну. Возьмі пральнік і пойдом лён обіваць. ***Пагост.***

**ПРАЛЫСІЦЬ** (пралы́сіць), -у-,-іш-, *зак.трыв.* Нехаця памыць. Мой Валік пралысіць лоб і бежыць ў школу. ***Убарц.Рудн.***

**ПРАСЛО** (пра́сло), *н., ужыв. толькі ў адзін.* Жэрдзь плота. Не садзіса на пра́сло , бо оборве́цца. ***Малеш.***

**ПРАЦЬ** (праць), *незак.трыв.* Мыць. Тре́бо праць пра́нікам соро́чку, шчо б ста́ла бе́лым, ек сне́г. ***Астраж.***

**ПРЫГРЭБНІК** (прыгрэ́бнік), *м.* Надбудова над пограбам. Мае куры ў прыгрэбніку несу́цца. Прыгрэ́бнікі ў селе ўсе робя́ць. ***Скрыг.***

**ПРЫЗВА** (пры́зва), *жс.* Прызба. Пры́зву абвалі́ліся, стро́іць на́да. Стары Тара́с ко́жны дзень сядзіць на пры́зві. ***Карч.***

**ПРЫЗЕМЛЯНКА** (прызе́млянка), *жс.* Жаўранак. Прызе́млянка хорашэ спева́е весно́ю. ***Буд. Саф.***

**ПРЫКАРНУЦЬ** (прыкарну́ць), -у-,-еш-, *зак.трыв.* Заснуць, задрамаць. Ляж на полаці — прыкарні́ тро́хі. ***Скрыг.***

**ПРЫМОЛОК** (прымо́лок), *м., ужыв. толькі ў адзін.* Адтуліна каля печы. Полож ва́ленкі ў прымо́лок, хай подсо́хнуць. ***Пухав.***

**ПРЫМОРОК** (прымо́рок), *м., ужыв. толькі ў адзін.* 1.Прыпечак. Вунь кот муецца на прымо́рку, мо то го́сці будуць. ***Скрыг.*** 2. Прызба. Седзіць старая Сарахвіна на прымо́рку й дрэмле. ***Скалодз.***

**ПРЫПУЛІЎ** (прыпулі́ў), -ю-, -іш-, *зак.трыв.* Хутка пабег. Ну́ й прыпулі́ў аж п'яты блішча́ць. ***Кам.***

**ПРЫЯЦЬ** (пры́яць), -ю-, -еш-, *незак.трыв.* Жадаць дабра каму-небудзь. Прыяць прыя́ла Лісаве́це, а ла́скі не зарабі́ла. ***Кам.***

**ПУДОРВАНІК** (пудорва́нік), *м., ужыв. толькі ў адзін.* Лекавая трава, вельмі падобная на брусніцы. Нашла пудорва́нік, ён ре́дко дзе е́. ***Буд. Саф.***

**ПУЛЬ** (пуль), *жс., ужыв. толькі ў адзін.* Пыл. Аткуль е́тая пу́ль набра́ласа. Сто́лькі пу́лі ў хаці ста́ла. ***Кам.***

**ПУНДРЫК** (пу́ндрык), *м.* Коржык. Возьмі пу́ндрык да е́ж. Попро́буй пу́ндрыкоў моі́х. ***Ляск.***

**ПУТРА** (пу́тра), *жс., ужыв. толькі ў адзін.* Суп з ячных круп. Зварыла пу́тры на вечэру. ***Карч.***

**ПУЦ** (пуц), *м., ужыв. толькі ў адзін.* Сякера-калун. Вазьмі́ пу́ц да пакалі пале́на. ***Паташ.***

**ПУШКА** (пу́шка), *жс.* Ба́нка з-пад крэму ці іншай мазі. Атчыні пу́шку і вазьмі та́м гу́зік. ***Юркав.***

**ПУХА** (пуха), *ж., ужыв. толькі ў адзін.* Карма лодкі. Сядзь, Іван, на пуху і ўпраўляй лоткай. ***Ляск.***

**ПЯТРЫ** (пятры), *ужыв. толькі ў множн.* Месца пад самай верхавінай страхі у гумне ці хляве. Топчы солому пад самыя пятры. ***Скрыг.***

## Р

**РАГОТКА** (раготка), *ж.* Хваёвая шышка. На раготку ногу проколола. На хвоі так багато раготак. ***Дубр.***

**РАДОЎКА** (радоўка), *ж. ужыв. толькі ў адзін.* Чарга. Пойдзеш у лаўку, а там у радоўцы стаяць трэба. ***Васіл.***

**РАДНЯНКА** (раднянка), *ж.* Даматканая просцілка. Поўну шухляду наткала раднянок. У мене аж п'яць раднянок. ***Зім. Буд.***

**РАЖКА** (ражка), *ж.* Цэбар з адным вухам. Вазьмі ў ражцы цеста і занесі кабану. У Хвойніках на базары ражак не було.

**РАЗБОРЫСТО** (разборысто), *прысл.* Выразна. Погледзі ек Надзя разборысто пішэ, хоць і малая. ***Скалодз.***

**РАЗКІ** (разкі), *ужыв. толькі ў множн.* Страва, картофельны бульён. Зварыла вельмо смачныя разкі. ***Малеш.***

**РАЗЛІВАЛКА** (разлівалка), *ж.* Чарпак для супоў. Падай разлівалку, налі супу ў міску. ***Савіч.***

**РАННІК** (раннік), *м. ужыв. толькі ў адзін.* Лекавая трава. Требо нарваць ранніку да напарыць. ***Буд. Саф.***

**РАЧКАТЫ** (рачкаты), *як. прыметнік.* Чалавек з вачамі навыкаце. Погледзі, екі рачкаты, аж гледзець страшно. ***Буд. Саф.***

**РАШЭЎКА** (рашэўка), *ж.* Кружавы. Галя зробіла ручнік с такою красіваю рашэўкою. Зробіла рашэвок для просцілок. ***Мал. Аўц.***

**РАШПУЛЬ** (рашпуль), *м.* Напільнік. Пошукай рашпуль. Тут раней два рашпулі лежалі. ***Смят.***

**РОГАТКА** (рогатка), *ж.* Прылада для вымярэння зямельнай плошчы. Ідзе брыгадзір з рогаткою, померае мой укос. ***Астраж.***

**РУБЕЛЬ** (рубель), *м. ужыв. толькі ў адзін.* Жэрдзь для ўціскання сена, снапоў. Прыціснуў сено на возе рублём. ***Ляск.***

**РУЧАЙКА** (ручайка), *ж.* Верацяно, на якое звіваюць пражу. Возьмі ручайку і звівацьмем пражу. Напрала за вечор дзве ручайкі. ***Тонеж.***

**РУЧЫ** (ручы), *як. прыметнік.* Вельмі здатны да працы. Ён вельмо ручы до працы.

**РУШНІЦА** (рушніца), *ж.* Старадаўняя назва стрэльбы. Була колісь і ў мене рушніца. ***Дзёрн.***

**РЫЗА** (рыза), *ж. ужыв. толькі ў адзін.* Старая паношаная вопратка. Куды ты одзееш ету рызу, ена ужэ розлезласа. ***Астраж.***

**РЫНКА** (рынка), *ж.* Гліняная міска. Купіла на базары нову рынку. Возьмі рынку і прынесі капусты. ***Карм.***

**РЫШТАК** (рыштак), *м.* Рыштаванне. Онь лезь на той рыштак. ***Буд. Саф.***

**РЭГА** (рэга), *ж.* Рыбалоўная прылада. Воны доўго ловілі рыбу рэгой. Цепер рэгі мало хто робіць — рыбі нема. ***Скародн.***

**РЭДАК** (рэдак), *м. ужыв. толькі ў адзін.* Рыбалоўная прылада, сетка для вялікай рыбы. Поехалі ловіць рэдаком рыбу. ***Бакл.***

**РЭЗАК** (рэзак), *м. ужыв. толькі ў адзін.* Галаледзіца, абліваха. Ну й рэзак сегонні на двоpы. ***Лісн.***

**РЭЗАНКА** (рэзанка), *ж.* Шарсцяная хустка з вялікімі кветкамі па краях. У лаўцы е і рэзанкі і подведзенкі. Надзень ету рэзанку, ена табе к ліцу. ***Карм.***

**РЭХ** (рэх), *м.* Арэх. Ідзіце ў рэхі, толькі торбы берыце. Рэх крэпкі, не раскусіш. *Малеш.*

## С

**САБАЧКА** (сабачка), *ж.* Драўляная прылада ў ткацкім станку. Прынесі сабачку з навойкаю. Прывежы сабачкі да ніта пара ткаці. ***Зар.***

**САДКА** (садка), *ж.* Рамка для фотакартак. Валя, посадзі ў садку і еты картачкі. Ого, колькі садак у хаці. ***Вял. Аўц.***

**САДОК** (садок), *м.* Квятнікі каля хаты. Каля хат адны садкі. ***Зар.***

**САКАТАЦЬ** (сакатаць), -у-, -аш-, *незак. трыв.* Рагатаць. Не сакачы, нема нічога смешнага. ***Крыўч.***

**САК** (сак), *м. ужыв. толькі ў адзін.* Невялікі летні пінжак. Надзень сак і бежы по корову. ***Малеш.***

**САЛАМАХА** (саламаха), *ж. ужыв. толькі ў адзін.* Чарніцы, працёртыя з цукарам. Люблю чарніцы, а саламахі не люблю. Саламаха добра для ачэй. ***Кам.***

**САЛОНІК** (салонік), *м.* Страва, вараная бульба. Згатовіла салонікі з гуркамі — і ўся вячэра. ***Кам.***

**САМАСЕЙКА** (самасейка), *ж.* 1. Злакавая расліна, што высяваецца ветрам. А там жыта- самасейка вурасла. Маку-самасейку на гародзе столькі нарасло. 2. Дзіця, што не мае бацькі. У Хваціны мужыка нема, а трое дзецей і ўсе самасейкі. ***Верб.***

**САМАТУЖКІ** (саматужкі), *ужыв. толькі ў множн.* Санкі. Вазьмі, Толік, саматужкі і прывезі сена. Саматужкі трэба купіць. ***Кам.***

**САРВЕТА** (сарвета), *ж.* Настольніца, абрус. Засцелі стол сарветой. Такі хорошы сарветы ў лаўцы. ***Дзёрн.***

**САРДАК** (сардак), *м.* Жылетка, якую носяць жанчыны паверх кофты. Дзе ты дзела сардак? У цебе сардак вушыты. ***Смят.***

**САЯН** (саян), *м.* Даматканая спадніца. Пошыла собе саян, але ж вельмі доўгі. Саяны носяць цепер толькі старые бабі. ***Скародн.***

**СВЕДОР** (сведор), *м. ужыв. толькі ў адзін.* Світэр. Я собе купіў сведор. Сведор новы, вушыты. ***Малеш.***

**СВОЙ** (свой), *м. ужыв. толькі ў адзін.* Рулон палатна. Трэба дастаць свой полотна, пашыць старому сарочку. ***Страл.***

**СЕВОК** (севок), *м.* Каробка. У сеўку лежаць ягоды. Надзень севок да йдзі по грыбу. ***Пухав.***

**СЕННІК** (сеннік), *м.* 1. Матрац. Трэба заменіць сеннік, еты парваўся. Напхай сенам сеннік. ***Васіл.*** 2. Месца, дзе ляжыць сена ў хляве. Закідалі саломай сеннік. У хляве два сеннікі: для кароў і для авечак. ***Зар.***

**СЕЧОНКІ** (сечонкі), *ужыв. толькі ў множн.* Дробна парэзаная, тушаная з салам бульба. І ўчора варылі сечонкі і сегонні зноў. ***Казлов.***

**СІННА** (сінна), *прысл.* Вельмі. Сінна вады багата, што прайці нельга. ***Замос.***

**СКЕПКА** (скепка), *ж.* Лучына. Возьмі скепку і запалі групку. Не ложысь на печ, там скепкі сохнуць. ***Дзёрн.***

**СКОПАЧ** (скопач), *м.* Крук для скідання гною з воза. Бежы к Вользі, возьмі скопача. Унь скопачы лежаць — возьмі на поле. ***Смят.***

**СКОСОК** (скосок), м. Касынка. От хорошэнны скосок у цебе. *Смят.*

**СКРЫНЯ** (скрыня), *ж.* Куфар. Цепер скрынь не робяць — адзежу ў шкап кладуць. Пакладзі палатно ў скрыню. ***Кам.***

**СКРЫПА** (скрыпа), *ж.* Вялікая лодка. Ну й скрыпу зробіў Сцепан. На етых скрыпах сено возець. ***Ляск.***

**СЛАКАТАЦЬ** (слакатаць), -у-, -аш-, *незак. трыв.* Казытаць. Не слакачы малога, а то спаць не будзе. ***Верб.***

**СЛОІК** (слоік), *м.* Шкляная банка розных памераў: паўлітровая, літровая. Схадзі, Анютка, і занесі слоік малака цёццы Арыні. ***Партыз.***

**СМАЛЯНКА** (смалянка), *ж.* Лугавая кветка. На поплаві столькі смалянак цвіце. Смалянка — жоўты цвяток. ***Вяляц.***

**СМОЛКА** (смолка), *прысл.* Заўзята. Роман смолка ўзяўся за работу. ***Чырвонабяр.***

**СОН** (сон), *м. ужыв. толькі ў адзін.* Сланечнік. Сон ужэ паспеў, будам зразаць. ***Карм.***

**СОНДРЫКІ** (сондрыкі). Падснежнікі. Дзеці пошлі по сондрыкі. У нашым лесі багато сондрыкоў. ***Брын.***

**СОПЕЛЬ** (сопель), *м.* Ёрш. Поймаў добры сопель. У етум месці браліса одны соплі. ***Малеш.***

**СОПАЧКА** (сопачка), *ж.* Капачка. На город возьмі сопачку с собой. ***Малеш.***

**СОТКА** (сотка), *ж.* Адна сотая гектара зямлі. Цэлую сотку на цвятнік перад хатай пакінула. ***Кам.***

**СОЎСЕНЬ** (соўсень), *м. ужыв. толькі ў адзін.* Вельмі непаваротлівы чалавек. От соўсень — нікуды не йдзе, толькі б лежаць. ***Верб.***

**СОЎНЕШНІК** (соўнешнік), *м.* Сланечнік. А того соўнешніка вероб'і чысто поклевалі. Картоплю покопалі — одны соўнешнікі стояць. ***Астраж.***

**СОЎЯК** (соўяк), *м.* Падасінавік. Одных соўякоў набрала. Так богато наросло іх. Соўяк не боровік, але добры грыб. ***Стад.***

**СПАЛАВАЦЬ** (спалаваць), -ю-, -еш-, *зак. трыв.* Злавіць што-небудзь Міша спалаваў вераб'я. ***Крав.***

**СЛЕПАК** (слепак), *м.* Сляпень. Слепак як укусіць, то доўга зудзіме. Етые слепакі не даюць пасціць тавар. ***Зім. Буд.***

**СІВАНДРАКА** (сівандрака), *ж.* Сівакраха. Сівандрака ў дупле

жыве. ***Буд. Саф.***

**СОКЕРНІК** (сокернік), *м. ужыв. толькі ў адзін.* Балотная расліна. Поба, ужэ сокернік вурос, хутко вода опадзе. ***Ляск.***

**СПЕРШКА** (спершка), *прысл.* Спачатку. Спершка ўрокі паробі, а тады ідзі гуляць. ***Курыц.***

**СПЛЮШКІ** (сплюшкі), *ужыв. толькі ў множн.* Пахучая лекавая трава. Нарваць сплюшкі — дзеці спацьмуць. ***Буд. Саф.***

**СПОНІЦА** (спонiца), *ж.* Спадніца. Нову спонiцу к пасцы пошыла. ***Брын.***

**СПРАВІЦЬ** (справіць), -ю-, -іш-, *зак. трыв.* 1. Спагнаць доўг. Не могу справіць с Арыны доўг, ніяк не оддае. 2.Набыць, купіць што-небудзь. Справіў валенкі собе. ***Астраж.***

**СПРОКВАЛЯ** (спрокваля), *прысл.* Нехаця. Спрокваля прышла сюды. ***Зім. Буд.***

**СТАВОК** (ставок), *м.* Бабка снапоў. Поставіла жыто ў стаўкі, шчоб добрэ просохло. Нажала ечменю одзін ставок. ***Верб.***

**СТАВУ** (ставу), *ужыв. толькі ў множ.* Ткацкі станок. Дзе ж ставу достаць, трэбо ж кросны вуткаць. ***Пагост.***

**СТАЛЕЦ** (сталец). Услон. Постаў сталец ле печы. Бацько зробіў стальца. ***Верб.***

**СТАЛЮГА** (сталюга), *ж.* Станок для падоўжанага распілоўвання дрэва: дошчак, шалёўкі. А сталюга вунь на дворэ стоіць. Трэба прынесці сталюгі і нарэзаць шалёўкі. ***Астраж.***

**СТАРОКОЖЫ** (старокожы), *як. прым.* Занадта цікаўны чалевек. А ты помоўчы старокожы, не лезь, куды не просяць. ***Скрыг.***

**СТАХЕЙ** (стахей), *м. ужыв. толькі ў адзін.* Здатны да выдумак чалавек. Ну й стахей, еты Ахрэм — абу што вудумвае. ***Астраж.***

**СТОЎБУН** (стоўбун), *м.* Гаршок сярэдняй велічыны. Возьмі того стоўбуна да прыстаў до печы, хай кортопля варыцца. ***Буд. Саф.***

**СТОЎЧЫК** (стоўчык), *м.* Табурэтка. Два стоўчыкі зробіў бацько. ***Вял. Аўц.***

**СТОЯН** (стоян), *м.* Частка коміна. Трэбо стояна перестроіць. Стояны полопаліс од морозу. ***Астраж.***

**СТРАПКАЧ** (страпкач), *м. ужыв. толькі ў адзін.* Ручнік з махрамі. Возьмі страпкач і вутры міскі. ***Карм.***

**СТРЭДНІ** (стрэдні), *як. прым.* Стрыечны. От на кермаш прыйдзе мой стрэдні ж жонкаю. ***Астраж.***

**СТЫКАЦЦА** (стыкацца), -ю-, -еш-, *незак. трыв.* Знаходзіцца. З самага рання дома не стыкаецца. ***Зар.***

**СТУС** (стус), *м.* Невялікі капец бульбы. Стус картоплі закопаны за хлевом. У нас шчэ е тры стусы картопляў. ***Карав.***

**СУДКІ** (судкі), *ужыв. толькі ў множ.* Куфар для старога адзення. Моя сподніца мабуць зноў у судках лежыць. ***Навас.***

**СУКНЯ** (сукня), *ж.* Даматканая шарсцяная спадніца. У Вольгі така хороша сукня. Сукні носяць старые бабу. ***Чырвонабяр.***

**СУКОННІКІ** (суконнікі), *ужыв. толькі ў множ.* Самаробныя даматканыя штаны. Скінь ты етыя суконнікі, надзень другія. ***Чырв.***

**СУКРАК** (сукрак), *м.* Вельмі змёрзлы ком якога-небудзь рэчыва. Такі мароз стаіць, што земля сукраком зрабілася. ***Кам.***

**СУНОЗА** (суноза), *ж.* Заноза ў ярме. Стаў запрагаць волы, а сунозы забуў паставіць. Ярмо е, а суноза згубілась. ***Скарод.***

**СУРАВАЯ** (суравая), *як. прым.* Льняная навошчаная нітка. Вазьмі сураваю нітку і прышэй гузік у пацяганку. ***Кам.***

**СУТКІ** (суткі), *ужыв. толькі ў множ.* 1. Невялікая прыбудова ля хлява. У етые суткі складаем сено. Несу дрову ў суткі. ***Астраж.*** 2. Кавалак зямлі за хатай, звычайна пакінутай пад сад ці квятнік. На етых сутках будуць цвяты. ***Пухав.***

**СУТАЧКІ** (сутачкі), *ужыв. толькі ў множ.* Малыя драўляныя начоўкі. Прапалай ў сутачках проса. ***Карав.***

**СЫРАДОЙ** (сырадой), *м. ужыв. толькі ў адзін.* Свежае малако, адразу пасля каровы. Як прыдзе с пашы карова, то падаю яе, кеб напіцца сырадою. ***Хвойн.***

**СЫРНІЦА** (сырніца), *ж.* Драўляная пасудзіна для складвання сыру. У нас дзве карову, так цэлу сырніцу сыру наскладала. ***Ляск.***

**СЫРОВАДКА** (сыровадка), *ж. ужыв толькі ў адзін.* Кулінарная страва. На абед зварыла боршч і сыровадку. ***Тульг.***

**СЦЯКЛЯНКА** (сцяклянка), *ж.* Шклянка. Прынесі сцяклянку квасу. ***Карм.***

**СЯЛЬНІК** (сяльнік), *м.* 1. Матрац для ложка. Напхай сяльнік сенам. ***Скрыг.*** 2. Закут у хляве. Повен сяльнік сена. ***Карм.***

**СЯТЦЫ** (сятцы), *ужыв. толькі ў множ.* Палічка для розных рэчаў. У сятцы кладзем хлеб. ***Пухав.***

# Т

**ТАВАР** (тавар), *м. ужыв. толькі ў адзін.* Статак кароў. Тавар сёдні добра напасвіўса. Уге тавар ідзе с пашы. ***Скрыг.***

**ТАЙКА** (тайка), *ж.* Сяброўка, часам суседка. Мая тайка, Максім ходзіць да Арыны, сама бачыла. Сабраліся тайкі да брэшуць на другіх. ***Кам.***

**ТАКЕЕ** (такее), *азн. займ.* Такое. Такее хорошае було кіно. ***Чырвонаб.***

**ТАМАКА** (тамака), *прысл.* Там. Стакан постаў тамака на паліцы. ***Дзёрн.***

**ТАПІЛА** (тапіла), *ніякі, ужыв. толькі ў адзін.* Гнілое балота. Тутака було такое тапіла, а цяпер хороша трава росце. ***Навас.***

**ТАПТУХА** (таптуха), *ж.* Рыбалоўная прылада. Узялі таптуху і пашлі лавіць рыбу. Дзеці таптухамі рыбу ловяць. 2. Бульбянае пюрэ. На вечэру одна таптуха. ***Хвойн.***

**ТАРКА** (тарка), *ж.* Жасцяная цёрка. Вазьмі тарку да падзяры етыя картоплі. ***Замос.***

**ТАРЫНОЎКА** (тарыноўка), *ж.* Вялікая квяцістая хустка. У цыганок купіла сабе тарыноўку. Цепер нема такіх тарыновак, як булі. ***Капл.***

**ТАЎКАНІЦА** (таўканіца), *ж., ужыв. толькі ў адзін.* Бульбяное пюрэ, прыпраўленае салам. Ну й пачаставала мене, кеб ёй скула ўбок, адну таўканіцу паставіла. ***Паташ.***

**ТОК** (ток), *м., ужыв. толькі ў адзін.* Растопленае сала. Такое сала мае дабрэннае, як укінеш на скавараду, у адзін ток растане. ***Карч.***

**ТОЛЕЧКІ** (толечкі), *прысл.* Нядаўна. Толечкі ён тут буў, а цяпер нема. ***Зар.***

**ТОПЛЯ** (топля), *ж.* Рыбалоўная прылада. Ходзем с топлей ловіць рыбу. Мой Коля ловіць рыбу топлей. ***Санюк.***

**ТОПЛЯК** (топляк), *м.* Патанулае бервяно. Вуцегнуў топляк з воды. ***Лісн.***

**ТОЎКАНІЦА** (тоўканіца), *ж.* Ступа. Занесі тоўкач і тоўканіцу. ***Ляск.***

**ТРАМЦЕЦЬ** (трамцець), -у-, -іш-, *незак. трыв.* Трэсціся. Трамцела ўсю дарогу, пакуль прыехала. **Скалодз.**

**ТРАПКАЧ** (трапкач), *м.* Кавалак палатнянай тканіны. Вазьмі трапкач і пастаў гаршчок на прыпечак. ***Паташ.***

**ТРАЯН** (траян), *м.* Вялікія трохрожныя драўляныя вілы для вяршэння стагоў. Возьмі траян да подай сено на вершок. ***Конкав.***

**ТЭБЕЛЬ** (тэбель), *м.* Вялікі свердзел. Було ў мене два тэбелі, а цепер нема, хтосьці ўзяў. ***Смят.***

**ТУТАКА** (тутака), *прысл.* Тут. Аставайса тутака і нікуды не йдзі. ***Васьк.***

**ТУРКАЦЬ** (туркаць), -ю-, -еш-, *незак. трыв.* Крычаць. Ты не туркай мне пуд вухо, я не глухая. ***Чырвонабяр.***

**ТЫЧНЯК** (тычняк), *м., ужыв. толькі ў адзін.* Плот, частакол. Тычняк за городом поломаўса. ***Смят.***

## У

**УБІРАНКА** (убіранка), *ж.* Даматканая просцілка. Вуткала собе таку хорошэнну ўбіранку. ***Конкав.***

**УГЕ** (уге), *прысл.* Ужо. Уге прыцёгса, мо дома поседзіш. ***Курыц.***

**УДОНІЦЬ** (удоніць), -ю-, -іш-, *зак.трыв.* Утварыць штонебудзь непрыемнае. Ну й удонілі бабу свайму брыгадзіру, шчо не мог больш на вочы показацца ім. ***Малец.***

**УЖЭБО** (ужэбо), *часц.* Няўжо. Ужэбо нема Івана тут? ***Ляск.***

**УКЕЎЗАЦЬ** (укеўзаць), -ю-,-еш-, *зак.трыв.* Забрудзіць. Скінь плацце, а то ўкеўзаеш на вуліцы. ***Санюк.***

**УКРОЎКІ** (укроўкі), *ужыв. толькі ў множн.* Адрэзкі з тканіны. Нарэзала столькі ўкровак, пакуль сашыла плацце. ***Вял. Аўц.***

**УКРУЦІЦЦА** (укруціцца), -у-, -іш-, *зак.трыв.* Загарнуць, завязаць моцна. Укруціса ў канаплянку да йдзі ў школу. ***Скалодз.***

**УНАРАВІЦЦА** (унаравіцца), -ю-, -іш-, *зак.трыв.* Упадобаць. Унаравілась карова ў Лісавецін гарод, то кожны раз туды заходзіць. ***Зар.***

**УНДЗЕКА** (ундзека), *часц.* Вунь там. Ундзека хтось сюды бежыць. ***Дзёрн.***

**УНЕКА** (унека), *часц.* Вунь. Унека побеглі твое парасята. ***Ляск.***

**УНЬ** (унь), *часц.* Вунь. Унь і дарога з лесу йдзе. ***Зар.***

**УНЁ** (унё), *часц.* Няўжо. Унё тамака хтось е. ***Дзёрн.***

**У ОБЛІПКУ** (у облiпку), *прысл.* Аб сабе, вельмі шчыльна. Плацье ты собе пошыла ў обліпку. ***Астраж.***

**УПАДАЦЬ** (упадаць), -ю-,-еш-, *незак.трыв.* Дагаджаць каму-небудзь. А Лісавета так упадае перад зяцем, так упадае. ***Кам.***

**УТОК** (уток), *м. ужыв. толькі ў адзін.* Ніткі для ткацтва. Прынесі верацяно на ўток. ***Зар.***

**УЦІРАННІК** (уціраннік), *м.* Ручнік. Рукі вуцер і повесь уціраннік. ***Хвойн.***

**УЦІРАЧ** (уцірач), *м.* Ручнік з даматканага палатна. Павесіла ўцірач, кеб рукі ўціралі. ***Карч.***

## Х

**ХАБОЖА** (хабожа), *ж., ужыв. толькі ў адзін.* Рыбалоўная прылада. У ету хабожу попало вельмо много плоток. ***Пухав.***

**ХАЛЕПА** (халепа), ж., ужыв. толькі ў адзін. Снег з дажджом. Така халепа на дворэ, шчо вуйці нельга. ***Лісн.***

**ХАМЕЗА** (хамеза), *ж., ужыв. толькі ў адзін.* Нізкарослы хмызняк: бярэзнік, алешнік, дубняк і іншыя. По етой хамезе погубіў увесь тавар, а цепер шукаць прыдзецца. ***Астраж.***

**ХВІЗОК** (хвізок), *м.* Сцёбка, прыбудова пры хляве. Поставілі хвізок коло хлева. У хвізку картопля е. ***Пагост.***

**ХВІРАНКА** (хвіранка), *ж.* Занавеска на акне, пераважна цюлевая. Вельмі хвіранкі хорошэнные ў Аўдоцці на вокнах. ***Скрыг.***

**ХВОЙКА** (хвойка), *ж.* Хвошч. Хвойкой гладышкі помула. ***Пагост.***

**ХЕБЕ** (хебе), *пыт.часціца.* Хіба. Хебе ты не чытаў ету кніжку. ***Санюк.***

**ХЕРМА** (херма), *ж.* Ферма. Ужэ другі год раблю на хермі. ***Карав.***

**ХІБЕТ** (хібет), *м., ужыв. толькі ў адзін.* Спрыт. От до работы ўсякой хібету ў Маланкі хапае. ***Верб.***

**ХІЗОК** (хізок), *м., ужыв. толькі ў адзін.* Паветка для дроў, дрывотня. Сходзі ў хізок і прынесі дроў. ***Тонеж.***

**ХІСЦЬ** (хісць), *ж., ужыв. толькі ў адзін.* Лёс. Така ужэ хісць яе. ***Мал. Аўц.***

**ХОВАЛКА** (ховалка), *ж.* Дзіцячая гульня, жмуркі. У ховалку гулялі. Дзеці бегаюць, відаць, у ховалкі гуляюць. ***Астраж.***

**ХЛУД** (хлуд), *м., ужыв. толькі ў адзін.* Куча ламачча. Зложы ў хлуд і етые сукі. ***Смят.***

**ХРАПА** (храпа), *ж.* 1.Мёрзлыя камякі зямлі, асабліва на дарозе. Ну й храпа па дарозе, ехаць нельга. ***Карч.*** 2.Качарыжка капусты. Такі качан папаўся, адна храпа, шаткаваць нема чаго. ***Кам.***

**ХРУШЧЫК**(хрушчык), *м.* Тонкі корж, спечаны з мукі, яек, малака. Арына напекла хрушчыкаў поўна рэшата. ***Хвойн.***

**ХУХУН** (хухун), *м.* Удод. Ужэ й хухун обозваўса ў лесі. ***Бакл.***

## Ц

**ЦАПУР** (цапур), *м.* Малёк, маленькая рыбка. Не карася зловіў, а цапура, такі маленькі. Дзеці наловілі богато цапуроў. ***Алякс.***

**ЦЕЛЬБУХІ** (цельбухі), *ужыв. толькі ў множн.* Вантробы. Овечне цельбухі вукінулі на гарот. Цельбухі кабана цэлы дзень обірала. ***Верб.***

**ЦЭЛЕЗНА** (цэлезна), *ж., ужыв. толькі ў множн.* Кавалак неўзаранага поля. Чого ты ету цэлезну тут оставіў? ***Смят.***

**ЦЕЛЕШ** (целеш), *м.* Кавалак бервяна. І такога целеша ты не мог одразу расколоць. Етые целешы порезалі на дошкі. ***Астраж.***

**ЦЕНЬКІ** (ценькі), *як.прым.* Тонкі. Ну й ценькі ты, мабуць, нічого не есі, мо хворы? ***Астраж.***

**ЦЕРТКА** (цертка), *ж.* Жасцяная драчка. Новай церткай картоплю добра церці. У лаўцы церткі е, трэба купіць. ***Кам.***

**ЦЕТЫ** (цеты), *указ.займ.* Гэты. А цетага пеўня трэба закруціць, бо свайго двара не гледзіць. ***Зар.***

**ЦЕТТАКА** (цеттака), *прысл.* Тут. От цеттака буў і як растаў. ***Вял. Аўц.***

**ЦІВОСЯ** (цівося), *прысл.* Даўно. Цівося дзеці пашлі ў школу. ***Юркав.***

**ЦІВЕНЯТА** (цівенята), *ужыв. толькі ў множн.* Кураняты. Цівенята любець пшоно і сыр. ***Слаб.***

**ЦЯГЛЫ** (цяглы), *прым.* Вельмі вынослівы. Параска така цяглая, увесь дзень капаецца на городзі. ***Верб.***

**ЦЯЛЕШНІК** (цялешнік), *м.* Кут ля печы. У цялешнік упаў вугаль, то подымі его. ***Пухав.***

**ЦЫКЛЯ** (цыкля), *ж.* Жалезная пласцінка ў рубанку. Цыкля поломаласа, требо купіць. ***Смят.***

**ЦЫПЕЛЬ** (цыпель), *м., ужыв. толькі ў адзін.* Выступ невялікага астраўка на рацэ. На еты цыпель зробім здойму волоком, мо шчука ўскочыць. ***Жах.***

## Ч

**ЧАВУН** (чавун), *м.* Чыгун (гаспадарчая прылада). Постаў чавун у печ. У чавунах картопля закіпела. ***Чырвонабяр.***

**ЧАРАДА** (чарада), *ж., ужыв. толькі ў адзін.* Статак жывёлы дамашняй. Чарада ідзе с поля. Майго Івана нема дома — пасе чараду. ***Зар.***

**ЧАРАНО** (чарано), *н., ужыв. толькі ў адзін.* Под на печы. Ляж на чарано і папячы п'яты. ***Мікул.*** Так замерз, што толькі чарано отогрэе. ***Дзёрн.***

**ЧОП** (чоп), *м., ужыв. толькі ў адзін.* Вялікі мяшок. Еты чоп і не кранеш з места. ***Верб.***

**ЧОПЛЕНІК** (чопленік), *м.* Ёмка. Подай мне чопленік. ***Конк.***

**ЧОСАНКІ** (чосанкі), *ужыв. толькі ў множн.* Валёнкі дамашняга вырабу. Наш дзед валіць чосанкі як хвабрычныя. ***Дзёрн.***

**ЧУБАРЫК** (чубарык), *м.* Жаўранак. Паслухай, Ево, ек спевае чубарык. Чубарыкі ўжэ прылецелі. ***Бакл.***

**ЧУЙКА** (чуйка), *ж.* Даматканая суконная бурка. Надзень чуйку на дорогу, бувае мецеліца будзе. ***Хобн.***

**ЧУНІ** (чуні), *ужыв. толькі ў множн.* Самаробныя галёшы. Зробіў собе чуні. Петро, надзевай на валёнкі чуні, а то ногі промокнуць. ***Капц.***

**ЧУШКА** (чушка), *ж.* Адкормлены парсюк. З етай чушкі багата сала будзе. У Мірона на двару такія чушкі ходзяць. ***Хвойн.***

**ЧЫПЛЕЯ** (чыплея), *ж.* Ёмка. Чыплея стоіць ле печы. ***Малеш.***

**ЧЫРЫЧКА** (чырычка), *ж*. Дзікая качка, чырок. Унь чырычкі поднелісь з затокі. Чырычка паляцела. ***Кам.***

**ЧЫСЛЕНКА** (численка), *ж*. Прылада для ткацтва, тры ніткі пражы. Трэбо дзесець чысленок, коб було однэ пасмо. ***Буд. Саф.***

**ЧЫСЛЕНІК** (чысленік), *м*. Каляндар. У нас е нову чысленік. ***Вял.Аўц.***

## Ш

**ШАНЬКА** (шанька), *ж*. Торба, сумка. Не забудзь узяць шаньку с сабой. ***Парт.***

**ШАРОВАЦЬ** (шаровацъ), -ю-, -ещ-, *незак.трыв.* Чысціць, драць. Возьмі с собой дзеркач і не забудзь шаровацъ пудлогу, коб була чысцейша. ***Лісн.***

**ШАРПАЦЬ** (шарпаць). -ю-,-еш-, *незак.трыв.* Чапаць. Не шарпай ты мене, дай поседзець спакойно. ***Дзёрн.***

**ШАРЭН** (шарэн), *м., ужыв. толькі ў адзін.* Змёрзлы снег пасля адлігі. По шарэну ходзечы порэзаў чоботы. ***Верб.***

**ШАРЫЦЬ** (шарыць), -у-,-ыш-, *незак.трыв.* Шукаць чаго-небудзь. Мо цэлы дзень шарыла па хаці, а іголкі так і не знайшла, не знаю, дзе яна прапала. ***Кам.***

**ШВЕНДАЦЬ** (швендаць), -ю-, -ещ-, *незак.трыв.* Хадзіць без мэты. Не швендай, бо помулі пудлогу. ***Скародн.***

**ШВЕРКАЦЬ** (шверкаць), -ю-,-еш-, *незак.трыв.* Гаварыць абы-што. От не шверкай, шчо не трэбо. ***Астраж.***

**ШЛАКАТАЦЬ** (шлакатаць) -у-,-аш-, *незак.трыв.* Казытаць. Ек сталі хлопца шлакатаць, то ён аж упаў — так боіцца шлокату. ***Чырвонаб.***

**ШЛОКОТ** (шлокот), *м., ужыв. толькі ў адзін.* Козыт. Я так боюса шлокоту. ***Астраж.***

**ШОЛІНКА** (шолінка), *ж.* Шчылінка. Позамазуй і еты шолінкі. У сцене е шолінка, затні ее. ***Малеш.***

**ШОПА** (шопа), *ж., ужыв. толькі ў адзін.* Прыбудова пры хляве або над пограбам. Под шопою лежыць копаніца. Куры зімуюць у шопі над пограбом. ***Верб.***

**ШОСЦІК** (шосцік), *м*. Прыпечак. Ускоч, Лёнько, на шосцік і отчыні комін, бо так жарко ў хаці. ***Конк.***

**ШПОНКА** (шпонка), *ж*. Кнопка. Плакат прыколі шпонкою. ***Вял. Аўц.***

**ШПУЛЬ** (шпуль), *м.* Пясчаная каса на рацэ. Раней тут булі шпулі на Прыпеці, а цепер позмувала вода. У етум месці шпуль песку аж до середзіны рэчкі. ***Скрыг.***

**ШТАКЕЦІНА** (штакеціна), *ж.* Шалёўка. Хтосьці штакеціну ноччу атарваў. Тры штакеціны трэба прыбіць, а то дзірка вялікая. ***Кам.***

**ШТАХЕТ** (штахет), *м.* Дашчаны паркан. Вецер увесь штахет поваліў. ***Ляск.***

**ШТЫБЛІК** (штыблік), *м.* Кавалак сала, каўбасы. Отрэж штыблік сала. ***Буд.Саф.***

**ШУГЛЯК** (шугляк), *м.* Драўляная лапатка для веяння намалочанай збажыны. Беры шугляк і вей. У нас аж два шуглекі. ***Буд.Саф.***

**ШУДЭЛАК** (шудэлак), *м.* Вязальны кручок. Купіла шудэлка. Шудэлкі ў лаўцы е, недаўна прывезлі. ***Малеш.***

**ШУЛО** (шуло), *ж., ужыв. толькі ў адзін.* Дубовыя слупы пры пабудове сялянскіх пабудоў. Поставілі шуло — хлеў робіцьмем. ***Скрыг.***

**ШУЛЯК** (шуляк), *м.* Невялічкі і слаба звіты качан капусты. З етага шуляка і боршчу не зварыш. Накідай у мешок шулекоў, мо корова поесь. ***Канат.***

**ШУМЕЦЬ** (шумець), *ж., ужыв. толькі ў адзін.* 1. Труха з сена. Шумеці прыўез два возы — хіба то сено. ***Верб.*** 2. Дробныя трэскі. Нема дроў — одна шумець у повеці. ***Верб.***

**ШУМНІК** (шумнік ), *м.* Матрац, напханы свежым сухім сенам. Трэба шумнік пашыць. Два шумнікі напхалі сеном. ***Прытык.***

**ШУМ'ЯК** (шум'як), *м.* Матрац. А летом добрэ спаць на шум'яку . ***Карм.***

**ШУПЛЯК** (шупляк), *м.* Слаба звіты качан капусты. Капуста поганая — одны шуплякі. Што ні качан, то шупляк. ***Астраж.***

**ШУРКА** (шурка), *ж.* Скірда дроў пэўнай меры: два і больш кубаметры. Зробіў тры шуркі дроў, думаю, на зіму хваціць. ***Васьк.***

**ШЫЙКА** (шыйка), *ж.* Месца паміж комінам і супрацьлеглай сцяной. Седзі ціхо і не вугледай з-за шыйкі. Погледзі ў шыйку, мо хто спічкі там положыў. ***Буд.Саф.***

**ШЫЛЕГ** (шылег), *м., ужыв. толькі ў адзін.* Кусты лазы, што растуць на пясчаных узгорках. Гора поросла шылегом. ***Канат.***

**ШЫМАРОДНІК** (шымароднік), *м.* Лясны гушчар. Не йдзі шымародніком, а то заблудзіш. ***Вял. Аўц.***

**ШЧАВА** (шчава), *ж., ужыв. толькі ў адзін.* Вельмі кіслая, нясмачная страва. Той боршч як шчава, хоць на сабаку вуллі. ***Кам.***

**ШЧАКА** (шчака), *ж.* Месца збоку ў печы. Постаў казан с картоплей за шчаку, хай варыцца. ***Буд. Саф.***

**ШЧАНЬ** (шчань), *м., ужыв. толькі ў адзін.* Вялікая драўляная бочка. Шчань капусты наквасіш — гот есцімеш. ***Конкав.***

**ШЧЫРАВАЦЬ** (шчыраваць), -ю-, -еш-, *незак.трыв.* Вельмі старацца пры рабоце. Так шчыраваў на рабоце, то й спіць доўго. ***Верб.***

**ШЧЭ** (шчэ), *прысл.* Яшчэ. Мой хлопец шчэ не прышоў са школы. ***Зар.***

**ШЧЫК** (шчык), *м.* Вяршыня дрэва. Унук залез на саму шчык бярэзіны. Вецер зломаў шчыкі ў двух яблунях. ***Зім.Буд.***

## Ю

**ЮРОК** (юрок), *м.* Прылада для звівання пражы. Палож юрок у печурку. Було два юркі і тыя згубіліся. ***Кам.***

**Юхт** (юхт), *м., ужыв. толькі ў адзін.* Прылада для закрыцця коміна. Зачыні юхт, а то холодно ў хаці. ***Асав.***

## Я

**ЯКАСЬ** (якась), *прысл.* Неяк. Якась не хочацца й думаць пра кросны. ***Кам.***

**ЯК ВУКАПАНЫ** (як вукапаны), *параўнальны зварот.* Вельмі падобны. Матрунін сын як вукапаны яе сусед Ігнат. ***Юркав.***

**ЯКЕ** (яке), *адносн.займ.* Якое. Яке холоднэ смачнэ. ***Дзёрн.***

**ЯМЕЧНІКІ** (ямечнікі), *ужыв. толькі ў множн.* Абагуленая назва пячных хатніх прылад: ёмкі, качаргі, вілак. Ле печы ямечнікі. ***Конкав.***

**ЯПО** (япо), *н., ужыв. толькі ў адзін.* Магазін, лаўка. Возьмі грошы, колі йдзеш у япо. Япо зачынена. ***Мал.Аўц.***

**ЯСІК** (ясік), *м.* Маленькая падушка. Положы пуд голову ясік. Моя дочка так хорошэ ясік вушыла. ***Малеш.***

**ЯТРОЎКА** (ятроўка), *ж.* Жонка брата мужа. Мая ятроўка пасуседству са мной жыве. З ятроўкай хадзілі па шчавель. ***Кам.***

# ПРЫКАЗКІ, ПРЫМАЎКІ, ФРАЗЕЛАГІЧНЫЯ СПАЛУЧЭННІ

Аддай рукамі, а хадзі нагамі (перасцярога для лёгкадумных). ***Хвойн.***
Аддай жонку, а сам у саломку (застацца аднаму). ***Карч.***
Адказаў, як па мордзе даў. ***Лісн.***
Адзін гарэў, а другі ногі грэў (іранічна — парадніўся). ***Кам.***
Адзін зір на Мазыр, а другі на Кіеў (пра касавокага). ***Стад.***
Адзін з'ясі вала, адна хвала (пра сквапнага). ***Капц.***
Адзін паглядае к лесу, а другі к бесу. ***Тульг.***
Ажаніўся і перамяніўся (стаў другім чалавекам). ***Кам.***
Бабіных груш не руш, свае трасі і бабі несі. ***Бarав.***
Багатаму і чорт дзеці калыша (жыве вельмі добра). ***Зар.***
Балалайка ніколі не будзе хазяйка (пра гаспадыню). ***Стад.***
Бачылі вочы, што бралі, ежце, хоць павулазце (пра жаніха і нявесту). ***Крыўч.***
Бедная зарэзала курыцу і абдзяліла вуліцу. ***Капц.***
Без кораня і дерево не росце. ***Глушк.***
Без маткі і сонца не грэе. ***Граб.***
Без прычыны і балячка не сядзе. ***Кам.***
Бог не слухае, што свіння рухае. ***Капц.***
Бувае, што й кошка лапці абувае. ***Ламав.***
Бугай бушуе, весну чуе, курка сокочэ, знесціся хочэ. ***Тон.***
Будзеш дахай, дак будзеш й узяхай (пра руплівую жанчыну). ***Спяр.***
Була ў сабакі хата (пра чалавека самахвала). ***Сцеж.***
Було таго смаку, як у печаным раку. ***Капц.***
Буў Цімох да пошоў на мох. ***Стад.***
Век жыць, не мех шыць. ***Гарб.***
Воўка ногі кормяць (парада для працавітага чалавека). ***Зар.***
Востры, як вуда, ды рэжа худа. ***Барав.***
Вурас пад неба, а дурны як трэба (пра лайдака і гультая). ***Хвойн.***
Вурасла ўрода серод огорода. ***Стад.***
Вучы дзіця, калі лежыць паперок лаўкі, а калі ляжа на ўсю, то хоць крычы ва ўсю. ***Капц.***
Галасіла баба на весь лес, а по ёй ніякі бес. ***Беразн.***
Галодным пярэйдзеш вуліцу, а голым не. ***Крыўч.***
Гарбатого могіла вуправіць. ***Стад.***
Глухая цяцера, што прыйдзе ў галаву, той меле. ***Спяр.***

Госць да паўдня, а як сонца зайдзе, то яго й чорт не знайдзе. ***Карч.***
Гультай за дзела, а мазоль за цела. ***Макр.***
Дай дзецям волю, то з'ядзяць і хвою. ***Сцеж.***
Да Іллі пад калодаю сена сохне, а пасля Іллі на сонцы намокне. ***Зар.***
Дарам і скула не сядзе. ***Крыўч.***
Дарованаму каню ў зубу не глядзяць. ***Юркав.***
Да чаркі скоры, а да працы хворы. ***Сцеж.***
Добрае на лаўцы лежыць, а паганае сокалам леціць. ***Спяр.***
Добрэ ўзарэш, много зберэш. ***Глушк.***
Добрым людзям і му рады будзям. ***Ламав.***
Дружная сям'я і ў бога наперадзе. ***Карч.***
Дурная тая дамова, дзе вала будзіць карова. ***Стад.***
Дзе не просяць, там яго чэрці носяць. ***Кам.***
Дзе п'яніцы пілі, там і грошы згубілі. ***Хвойн.***
Дзе чарка, там і сварка. ***Зар.***
Дзіця не плача, матка не дагадаецца. ***Бабр.***
Дзякуй богу хлеб удаўся, пад скарынку кот схаваўся. ***Карав.***
Дзякуй богу за обед, што наеўса дармоед. ***Стад.***
Жаба малая, а рот вялікі. ***Капц.***
Жаваронак прылетае на прогалінку, жураў с цеплом, а ластаўка з лістом (з народных назіранняў). ***Запяс.***
Жадны, як Чугаеў сабака. ***Замос.***
Жонку не б'е мужык, а ее езык. ***Беразн.***
За добрым мужам і жонка разумная. ***Замос.***
Задраў вейкі да пабег у Малейкі. ***Зар.***
За добрым мужам жонка як лілея, а за п'яніцай тварам змарнее. ***Зар.***
Замуж вуйці трэба знаць, позна легці — рана ўстаць. ***Спяр.***
За перебірачку бог дае болячку. ***Арав.***
За так нічога не бувае. ***Зар.***
Знай каток свой куток. ***Барав.***
Здатны да прыказкі, як чорт да прывязкі. ***Зар.***
З добрага меха спечэ і неўмеха. ***Стад.***
З'еж хоць адзін вала, будзе адна хвала. ***Хвойн.***
Іграў і дайграўся. ***Вугл.***
І ад квасу бог дае пакрасу. ***Капц.***
Ідзі пешкі, раз нема замешкі. ***Стад.***
І сабакі не брахалі, а ў Дземіда сучку ўкралі. ***Стад.***
І сам не гам і другому не дам. ***Спяр.***

І світа лежыць і дурань дрыжыць. ***Капц.***
І сена паела і за возам не пабегла. ***Кам.***
Калі добры дзень, то шапку здзень. ***Капц.***
Калі е грошы, той сам хорошы. ***Капц.***
Каму што, а плешываму баня. ***Спяр.***
Каму шанцуе, той і ў лапцях танцуе. ***Савіч.***
Каму што, а Аўдоцці куры. ***Тульг.***
Комам ў горле стала. ***Кам.***
Кот на печы — холад на дварэ. ***Тульг.***
Краса да вянца, а жыцсць да канца. ***Кам.***
Крыкам толькі ваўкоў пужаюць. ***Стад.***
Леніву два разы робіць, а скупы два разы плоціць. ***Слаб.***
Леніваму работа мачыха. ***Кам.***
Лісавае целятка дзве маткі ссе, а гордае ні адной. ***Зар.***
Ліха не ўседзіць ціха. ***Хвойн.***
Мазыр як пузыр: кругом горы да вада, а ў сярэдзіне беда. ***Круш.***
Маеш сваю дачку — маўчы пра сусецкую. ***Небыт.***
Май — валом дай, а сам на печ уцекай. ***Стад.***
Маёй пугаю да па маёй спіне.***Веляш.***
Малыя дзеці — малы клопат, вялікія дзеці — вялікі клопат. ***Кам.***
Матка ўмерла — бацька аслеп. ***Хвойн.***
На бога спадзявайса і сам старайса. ***Гарб.***
На голове як у дурного на крышы. ***Верб.***
На другой ажаніўса, коб на дзесятой не спыніўса. ***Перар.***
Намуціла Гуця, што не паесць і цюця. ***Зар.***
Наперад кінеш — ззаду знойдзеш. ***Лісн.***
Напражэ скварак і дасць у карак. ***Бабр.***
Наступіць чорны вол на ногі. ***Небыт.***
Нарабіў работы, што й чорт не разбярэ. ***Тульг.***
На Петра баба хлеб спекла, а на Іллю хлебом печ заллю. ***Стад.***
На тое і б'юць, кеб балела. ***Карч.***
Начная зезюля на свой бок перакукуе. ***Беразн.***
Наш Іван не балван, що зловіў, то ў карман. ***Капц.***
Не запрог — не паганяй. ***Спяр.***
Не дай божа два разы жаніцца і два разы селіцца. ***Капц.***
Недасол на столе, пересол на голове. ***Капц.***
Не кайса рано ўстаць, а молодой замуж пойці. ***Ляск.***
Не робі дупла да ў готовое лезь. ***Верб.***
Ненадоўго стары жэніцца. ***Крушн.***
Не наспацца, калі стаў таварыш абувацца. ***Спяр.***
Не отсохне голова, вуросце борода. ***Пагост.***

Не поп, дак не ўбірайся ў рызу. ***Хвойн.***
Не радуйса чужой бедзе, бо своя ўперадзе. ***Стад.***
Не столькі мёду, сколькі смуроду. ***Замос.***
Не там трацiш, дзе купляеш, а там, дзе прадаеш. ***Тульг.***
Не твоя борода, не твой клопот. ***Малеш.***
Не ў тым сiла, што кабула сiва, а ў тым, што не вязе. ***Хвойн.***
Не ўсяка ягодка солодка. ***Стад.***
Не хвалiся ў сем дзянькоў, а хвалiся ў сем гадкоў. ***Гарб.***
Не спяшайся, да ў людзей путайся. ***Капл.***
Нi богу свечка, нi чорту качарга. ***Тульг.***
Нi сабе паглядзець, нi людзям паказаць. ***Зар.***
От сказаў, што па вадзе ляснуў. ***Кам.***
Паглядзi ў воду на сваю ўроду. ***Сав.***
Пагледзi на себе i хопiць с цебе. ***Мiрон.***
Пагода такая: не пi, не еж i с хаты не лезь. ***Хвойн.***
Покрова землю покрывае не лiстом дак снегом. ***Буйн.***
Помiраць збiрайса, а хлеба старайса. ***Буйн.***
Пасмяяўся чыгун з гаршка, хоць i сам чорны. ***Кам.***
Пацегнуў чорт Мiкiту на волокiту. ***Стад.***
Пашлi дурнога, а за iм другога. ***Карч.***
Плотнiк не плотнiк, а стукаць охотнiк. ***Малеш.***
Пляце Сынклета нi зiму нi лета. ***Зар.***
Першы плод пад плот. ***Граб.***
Пойдзеш нязваны — прыдзеш нечастованы. ***Небыт.***
Прапаў мех, той на бацьку грэх. ***Малеш.***
Пройдуць дожджыкi ў маю, постануць стажкi i ў гаю. ***Стад.***
Прыстаў, як скула да цела. ***Зар.***
П'янаму цi дурному i бог дарогу ўступае. ***Бурк.***
Рабi нябожа, то й бог паможа. ***Хвойн.***
Радзiла цябе мама, да не ўзяла цябе яма. ***Карч.***
Раз наняўся, то й прадаўся. ***Стад.***
Ранняя ралля не ўродзiць, але сем'я не зводзiць. ***Буйн.***
Ранняя пташка дзюбку абчышчае, а позняя вочкi прадзiрае. ***Гарб.***
Робiш на спех, людзям на смех. ***Беразн.***
Рукi вумажаш - водою помуеш, душу вуможаш - мулом не отмуеш. ***Малеш.***
Сабачыя вочы дыму не баяцца. ***Стад.***
Сава не родзiць сакала, а такога чорта ек сама. ***Габ.***
Саколiк да галубчык дзела робiць, а ту да ну - нiчога. ***Зар.***
Свайго не меўшы - лажыся спаць не еўшы. ***Пруд.***

Свая сермяжка не важка. ***Гарб.***
Свату першая чарка і першая палка. ***Вугл.***
Свой хоць і не заплача, але скрывіцца. ***Кам.***
Сеў у раду дык цегні беду. ***Граб.***
Скнарае вока бачыць далёка. ***Стад.***
Скупу два разы плоціць, а ленівы два разы робіць. ***Зар.***
Смех без прычыны - прымета дурачыны. ***Стад.***
Спіць і не чуе, што на спіне дзесяць блох гарцуе. ***Стад.***
Спуджаны воробей і конопель боіцца. ***Малеш.***
Стары - словом, молоды - справой. ***Мялешк.***
Сякі-такі Панцялей - і то ў хаце весялей. ***Катл.***
Сеннік - не подушка, невестка - не дочушка. ***Крушн.***
Тады Юзік ажэніцца, ек лысы вол оцеліца. ***Камар.***
Такой ласкі дастану ў любой Парaскі. ***Капц.***
Там радзіма міла, дзе маці радзіла. ***Стад.***
То не кума, што с кумом не піла. ***Мірон.***
Той самі свет, а людзі другіе. ***Тон.***
У адным месці пуста, а ў другім густа. ***Кам.***
У гаспадара бот рыпіць, а ў гаспадыні ў грудзях баліць. ***Камар.***
У гасцях каша, а дома кулеш да лепш. ***Гарб.***
У добры час сказаць, а ў поганы помоўчаць. ***Брын.***
У душу ўлезе і у кроў не ўмажацца. ***Хвойн.***
У дурнога салаўя дурныя песні. ***Хвойн.***
У людзей дурні мруць, а ў нас ек з воды ідуць. ***Стад.***
У маленькім гаршку і каша смачно. ***Тонеж.***
У неўмелага рукі не баляць. ***Карч.***
У сваім краю як у раю. ***Спар.***
У свіныя галасы. ***Зар.***
Усяка тады гаспадыня, калі поўная скрыня. ***Буйн.***
Халадно на ком плацце адно. ***Небыт.***
Хлеб не зяць, а з’ядзяць. ***Лісн.***
Хопіць людзей на веселле, а маку на насенне. ***Стад.***
Хораша сірацё ў людзех, да скрыпіць у грудзях. ***Барав.***
Хоць коровай грецкі, але гонар шлехецкі. ***Малаш.***
Хоць і воўна, абу кішка поўна. ***Мікул.***
Хоць за вала, абу дома не була. ***Зар.***
Хочэш на гору, а чорт за ногу. ***Буйн.***
Хто б дзятла знаў, кеб не его нос. ***Пагон.***
Хто есць ножом , той з’есць рожон. ***Капц.***
Хто коней меняў, у того хомут гуляе. ***Стад.***
Хто летом до сонца ўстае, у того лето на столе. ***Буйн.***
Хто летом рукою, той зімой губою. ***Буйн.***

Хто не драмае, той і мае. ***Пагон.***
Хто пільнуе свята, у таго пустая хата. ***Кам.***
Ці ўмер Даніла, ці скула задавіла - адзін канец. ***Тульг.***
Цебе хоць і чуеш, але не перэбічуеш. ***Капц.***
Чаго не ясі, таго ў рот не несі. ***Карч.***
Чакай, мо жаба цыцы дасць. ***Зар.***
Чорта хрысці, а ён - пусці. ***Капц.***
Чужую беду па воласу развяду, а сваёй і розуму не дабяру. ***Кам.***
Чужая жонка мёдам мазана, а свая - дзегцем. ***Барав.***
Чухайся вол з валом, конь с канём, а свінні нема с кім, дак аб тын. ***Зар.***
Чыста і гладка, а гледзець гадка. ***Вял.Аўц.***
Што маем, тым і прымаем. ***Стад.***
Што стары кажа на глум, дык малады бярэ на вум. ***Вял.Аўц.***
Шчасце за грошы не купіш. ***Беразн.***
Я за свайго Кузьму каго хочаш вазьму, а ты сваю Арынку павазі па рынку, ***Зар.***
Язык без касцей: што хоча, тое лапоча. ***Васьк.***
Яму ўсёроўна: што чорнае, а што белае. ***Карч.***
Як асінка затрасецца, тады й волік напасецца. ***Стад.***
Як вуросце званец, то й казьбе конец. ***Капц.***
Якая вячэра, такая й дзяка. ***Капц.***
Які госць, такое й частаванне. ***Юркав.***
Як добра жывецца, то й на трэску прадзецца. ***Спяр.***
Як добрэ плечэ, то й тупіца сечэ. ***Стад.***
Які ехаў, такі й на воз узяў. ***Савіч.***
Як ідзе дождж знізу, то хавайся ў хізу, а як ідзе з гары, то беры валы ды ары. ***Кам.***
Які ішоў, такога знайшоў. ***Карч.***
Як камарна, дак і патраўна. ***Камар.***
Які май, такі будзе ўраджай. ***Тонеж.***
Як любоў да савет,дак і ў пост мясаед. ***Карч.***
Які пень, такі й адрасцень. ***Карав.***
Як пойдзе вайною Кітай, то хоць хату кідай. ***Карав.***
Як поўная скрыня, тады й свіння гаспадыня. ***Буйн.***
Як стане на палено, дак свінні па калено. ***Гароч.***
Як у гумне не малоціцца, дак у хаці колоціцца. ***Стад.***
Я ему мешком, а ён обушком. ***Стад.***
Якая Хадоска, такая яе палоска. ***Сцеж.***
Я не чоловек, але й Хома не людзі. ***Лісн***.

## *Змест*

**Купрыенка Васіль Аляксандравіч**
**Шур Васіль Васільевіч**

***Матэрыялы да слоўніка гаворак Мазырскага Палесся***

Вучэбны дапаможнік па беларускай дыялекталогіі для студэнтаў філалагічнага факультэта беларускага аддзялення

**Вучэбнае выданне**

Рэдактар: Малюк А.К.
Тэхнічны рэдактар: Андрыаловіч А.В.

Падпісана ў друк 03.06.96. Фармат 64x84 1/16.
Папера KymCopyLux. Афсетны друк.
Ум.друк.арк. 4,45. Ул.-выд. арк. 4,6. Тыраж 500. Заказ 1095.

Мазырскі дзяржаўны педагагічны інстытут
Надрукавана на множнай тэхніцы фірмы East-TV
Украіна, Кіеў, вул. Січовых стрэльцiв, 105. ВЛ 3235.

